# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

31 мая 2019 года №22 (1257) 18+


# Чым павінна дапамагаць дзяржава, а пра што – клапаціцца бацькі

У рэдакцыі «РГ» зладзілі круглы стол

старонкі 18-19

На фота Вольгі ЖАРСКАЙ – Арына і Мірон ПОЛАЗЫ з Маладзечна.

## Як наш чытач бароніць правы свае і іншых, звяртаючыся ў дзярж-службы

старонка 2




ISSN 1991–7155


Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

## Карціны Эдуарда Мацюшонка выставяць у Доме ўрада ў сталіцы

ВІЛЕЙКА

Прапанову зладзіць выставу сваіх прац у Доме ўрада вілейскі мастак **Эдуард Мацюшонак** атрымаў ад прадстаўнікоў дэпутацкага корпуса.

На выставе «Радзіма. Рэканструкцыя» мастак прадставіць каля 20 прац. Сярод іх – дзве зусім новыя.

Адна з іх «Абуджэнне», намаляваная да дударскага рэю ў Глыбокім, і твор філасофскага зместу «Бацькоўскія сады».

– Спачатку працы выставяць у Доме ўрада, а пазней перанясуць у прэзідэнцкую бібліятэку. Там іх зможа ўбачыць больш людзей, – расказаў «Рэгіянальнай газеце» Эдуард Мацюшонак.

Адкрыюць выставу 31 мая.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На фестывалі «Майскі вальс» узнагародзілі музыкантаў з рэгіёна

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**Адкрыты абласны фестываль духавой музыкі 24-27 мая прымала Вілейка.**

25 мая ўрачыста ўзнагародзілі пераможцаў фестывалю. Гран-пры атрымаў духавы аркестр Маладзечанскага музкаледжа імя Агінскага пад кіраўніцтвам дырыжора **Аляксея Андрэева**.

Дыплом першай ступені – ва ўзорнага духавога аркестра Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў. Кіраўнік **Валеры Чачулін**, паведамлююць у Вілейскім райвыканкаме.

**Аддзел інфармацыі.**

## Дзе можна купацца і загараць на пляжы

МАЛАДЗЕЧНА

Спецыялісты Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі праверылі пробы вадаёмаў раёна і абследавалі ўзаконеныя зоны для адпачынку і тэрыторыі дзіцячых летнікаў на насякомых.

Зацвердзілі чатыры месцы для купання і масавага адпачынку ў Маладзечанскім раёне.

1). Вадаём санаторыя «Сасновы Бор».

2). Вадаём дома адпачынку «Алеся».

3). Вадаём у пасёлку Беразінскае Гарадзілаўскага сельсавета, замацаваны за УП «Камунальнік».

4.) Вадаём Удранка ў Радашкавічах, замацаваны за лясгасам.

Па выніках аб'ездаў спецыялістаў далі рэкамендацыі ў выканкамы і ведамствы, як выправіць парушэнні па прыборцы тэрыторыі, рамонце ценявых навесаў, кабінак для пераапранання.

Калі вы адпачываеце на вадаёме, калі ласка, прыбірайце за сабой і забірайце сваё смецце. Несанкцыянаваных звалак апошнім часам стала менш. Але любы адпачынак можа сапсаваць чужое непрыбранае смецце.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ, доктар-гігіеніст, загадчык аддзялення камунальнай гігіены Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**

## Увядуць дадатковы дзень для медкамісіі кіроўцаў

ВІЛЕЙКА

Такая інфармацыя размешчаная на сайце Вілейскай ЦРБ.

Ад першага чэрвеня ўвядуць дадатковы дзень (кожную сераду) для таго, каб кіроўцы змаглі прайсці медыцынскую камісію на допуск да кіравання транспартнымі сродкамі.

**Паводле сайта Вілейскай ЦРБ.**

## Вучні з рэгіёна – пераможцы конкурсу чытальнікаў «Жывая класіка»

МАЛАДЗЕЧНА
ВАЛОЖЫН

24 мая ў Мінскім абласным інстытуце развіцця адукацыі зладзілі фінал абласнога этапу рэспубліканскага творчага конкурсу юных чытальнікаў «Жывая класіка: прысвячэнне маёй Радзіме».

Сярод пераможцаў ёсць вучні з рэгіёна.

У першай узроставай катэгорыі (пачатковыя класы) дыплом трэцяй ступені атрымала вучаніца Маладзечанскай сярэдняй школы №8 **Соф'я Аліева** з вершам **Кацярыны Спрынцынай** «Жыві, Беларусь».

У другой узроставай катэгорыі (5-6 класы) трэцім стаў **Дзмітры Суравежка** – навучэнец Гародзькаўскага вучэбна-педагагічнага комплексу дзіцячы сад – сярэдняя школа Валожынскага раёна. Хлопчык чытаў верш **Рыгора Барадуліна** «Бацьку».

Сярод самых старэйшых удзельнікаў (9-10 класы) дыплом трэцяй ступені атрымала вучаніца з маладзечанскай гімназіі №6 **Арына Курсава**. Дзяўчына чытала «Апокрыф» **Максіма Багдановіча**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота wikipedia.org

# Абаронім правы, звяртаючыся ў дзяржслужбы

Вілейскі райвыканкам паабяцаў устанавіць указальнік, каб турыстам лягчэй было дабрацца да гэтага помніка прыроды.

ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

**Сёлета ў ліпені на Вілейшчыне паставяць указальнік да помніка прыроды «Варацішын крыж», што ў вёсцы Камена Даўгінаўскага сельсавета.**

Падстава – электронны зварот у Вілейскі райвыканкам жыхара Параф'янава, краязнаўцы, нашага пастаяннага чытача **Кастуся Шыталя.**

### Знайсці «Варацішын крыж» турыстам будзе лягчэй

– Нядаўна да мяне прыехаў сябар з Мінска. Мы вырашылі крыху падарожнічаць па наваколлі. Заехалі ў Даўгінава. А пасля я прапанаваў з'ездзіць у вёску Камена, каб паглядзець помнік «Варацішын крыж». Быў там гадоў пяць таму, дзе дакладна знаходзіцца помнік, не памятаў, – расказаў карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» Кастусь Шыталь.

Па словах краязнаўцы, знайсці помнік атрымалася не адразу. Указальніка нідзе не было. Мусілі зайсці да каго-небудзь у вёсцы. Гаспадыня і распавяла, як дайсці да помніка.

Аказалася, ён знаходзіцца літаральна ў двухстах метрах ад дарогі.

– Тады і падумаў: чаму б вілейскім уладам не зрабіць указальнік. Справа гэта нядоўгая, не патрабуе вялікіх высілкаў і матэрыяльных выдаткаў, – кажа Кастусь.

Мужчына накіраваў зварот у Вілейскі райвыканкам. Праз два тыдні адтуль прыйшоў адказ.

**Паведамлялі, што знак-указальнік на галоўнай дарозе ў вёсцы Камена ўстановяць сёлета ў ліпені.**

Больш падрабязна пра тое, як Кастусь Шыталь звяртаецца ў дзяржслужбы і якія адказы атрымлівае, чытайце ў бліжэйшым нумары «Рэгіянальнай газеты».

### 40% зваротаў Кастуся Шыталя задавальняюць

Па словах Кастуся, звароты ў дзяржаўныя службы ён накіроўвае часта. Два гады таму Кастусь звяртаўся да мясцовых уладаў Мядзельшчыны. Прасіў, каб у Будславе памянялі графік працы кавярні.

– Звяртаўся, каб для турыстаў і людзей, што прыязджаюць у будслаўскі касцёл, зрабілі больш зручны графік. У выніку зварот задаволілі, і кавярня цяпер працуе па іншым графіку.

Летась наш чытач напісаў на Беларускую чыгунку. Даводзіў, што трэба памяняць графік цягніка «Крулеўшчына-Маладзечна» па выхадных. На сайце петыцый сабраў больш за 60 подпісаў. Графік памянялі.

Быў і яшчэ адзін станоўчы досвед супрацы з Беларускай чыгункай, звязаны з нашым рэгіёнам.

– Звярнуўся, каб у дызельным цягніку «Маладзечна-Полацк» аўтаінфарматар аб'яўляў прыпынкі на добрай беларускай мове. Да мяне таксама прыслухаліся. Цяпер аўтаінфарматар аб'яўляе прыпынкі на прыгожай беларускай мове галасам супрацоўніка «Рэгіянальнай газеты» **Ігара Палынскага**.

Па словах Кастуся, з Беларускай чыгункай у яго найбольш прыемны досвед супрацы. Найгоршы – з Докшыцкім райвыканкамам. Пра тое, каб адрамантавалі вулічны ліхтар, Кастусь пісаў тры разы. У выніку зрабілі.

Кастусь Шыталь упэўнены: для абароны ўласных правоў і правоў іншых людзей варта звяртацца ў дзяржаўныя службы. 40% задаволеных зваротаў – не такі ўжо дрэнны вынік.



Фота Алены СЦЯПАНАВАЙ

Наш чытач Кастусь Шыталь.

«Варацішын крыж» – гэта валун. Помнік прыроды рэспубліканскага значэння

У 1857 годзе падчас экспедыцыі па Віліі **Канстанцін Тышкевіч** запісаў пра гэты валун легенду ад мясцовых жыхароў. Быццам, валун – гэта скамянелы араты, пакараны Богам за працу на Вялікдзень. У вышыню камень больш за тры метры. У мінулым стагоддзі яго называлі найстаражытнейшым помнікам хрысціянскай даўніны, бо на камяні выбіты вялікі васьміканцовы крыж з надпісам «Господи помози рабу своему Борису». Лічыцца, што надпіс зроблены па загадзе Полацкага князя **Барыса Усяславіча** ў 1102-1106 гадах майстрам па імені Варацішa, таму што, па меркаванні гісторыкаў, у дадатак да вышэйпрыведзенага надпісу на камяні маюцца амаль зацёртыя часам словы «Воротишин Хресть». Адсюль і назва. Хутчэй за ўсё, некалі каля гэтага каменя было язычніцкае капішча.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

*Матэрыял створаны ў рамках сумеснай ініцыятывы Офіса еўрапейскай экспертызы і камунікацый, CityDog.by, vitebsk4.me, часопіса «Бінокль» і «РГ».*

# Як стрыгчы газоны і што пасадзіць, каб адпудзіць кляшчоў

**Лета – пара пакосу травы. Шчаслівыя ўладальнікі ўласных газонаў звычайна паспяхова і своечасова, а некаторыя яшчэ і з задавальненнем спраўляюцца з гэтай задачай.**


Падстрыжаны газон – гэта і прыгожа, і карысна.

Фота sadium.ru.

А вось кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый даводзіцца перыядычна нагадваць аб неабходнасці гэтай працэдуры.

Газон стрыгуць з эстэтычных меркаванняў – як жа інакш надаць травяному буянству выгляд акуратнага мяккага зялёнага дывана! Без цырульніцкіх паслуг трава грубее, цямнее, частка лісця са старых парасткаў ападае, агаляючы сцёблы. А вось падстрыжаная трава пачынае актыўна нарошчваць бакавыя парасткі, кусціцца і ўшчыльняцца.

Густое травяное пакрыва не дазваляе прабівацца пустазеллю. Каб ваш газон выглядаў з іголачкі, не давайце траве перарастаць больш за 12 сантыметраў. Інакш пасля стрыжкі ў тоўшчы травастою рэзка зменіцца асвятленне. Гэта прывядзе да завядання, пажаўцення і нават гібелі далікатных парасткаў, якія да гэтага хаваліся ў цені. За адну стрыжку рэкамендуецца зрэзаць не больш за трацiну вышыні сцябла, у гэтым выпадку аднаўленне раслін адбываецца ў аптымальным рэжыме.

### Стрыжка газона адпуджвае кляшчоў

Аднак не толькі з эстэтычных меркаваннняў трэба рэгулярна стрыгчы траву. Яшчэ адна прычына – кляшчы. Яны з'яўляюцца пераносчыкамі небяспечных захворванняў чалавека – энцэфаліту, барэліёзу, монацытарнага эрліхіёзу.

Ужо з сярэдзіны вясны ў кляшчоў назіраецца павышаная актыўнасць. Яны размнажаюцца ў высокай траве, бытльнягу, несабраных раслінных адходах, апалым лісці. Нападаюць на жывёл і чалавека з верхавін травінак, галінак кустоўя. Чым вышэй расліннасць, тым вышэй рызыка нападу.

Дзейсныя і экалагічна бяспечныя прафілактычныя мерапрыемствы па барацьбе з кляшчамі – рэгулярная стрыжка газонаў, уборка галінак, лісця і іншых раслінных рэштак. Можаце паспрабаваць пасадзіць на клумбах расліны, якія адпуджваюць кляшчоў. Гэта піжма звычайная, лаванда, рамонак далмацкі, размарын лекавы, каціная мята, фасоля, палын.

### Не пакасілі – штраф

Землекарыстальнікі ў абавязковым парадку павінны своечасова касіць траву і даглядаць за сваімі ўчасткамі азелянення. І гэта прапісана ў розных заканадаўчых актах у галіне забеспячэння санітарна-эпідэміялагічнага дабрабыту.

Прадугледжаная і адміністрацыйная адказнасць за невыкананне дадзеных нормаў. Сума магчымага штрафу можа дасягаць 25 базавых велічынь (637,50 рубля) на фізічную асобу, да 50 базавых велічынь – на індывідуальнага прадпрымальніка, а на юрыдычную асобу – да 100 базавых велічынь.

Своечасовая стрыжка газона не толькі створыць дагледжаны выгляд участка, але і дазволіць зэканоміць бюджэт.

**Кацярына ЯРАВІКОВА,**
**доктар-гігіеніст аддзялення гігіены працы Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**



**ЛІЧБА НУМАРА**

**1073,7** рубля

памер намінальнай сярэдняй зарплаты па Беларусі за красавік.

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 23.05 | 30.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0757 | **2.0879** |
| Еўра | 2.3160 | **2.3278** |
| Злоты, 10 | 5.3812 | **5.4142** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2234 | **3.2160** |
| Грыўня, 100 | 7.8946 | **7.8257** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **22.05** | **30.05** |
| Еўра | 2.3000/2.3220 | **2.3150/2.3350** |
| Долар ЗША | 2.0600/2.0800 | **2.0780/2.0960** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 22.05 | 29.05 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **19,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,70 | **3,70** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,66 | **7,37** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,50 | **14,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,30 | **1,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,35 | **1,35** |
| Агуркі, 1 кг | 1,49 | **1,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 4,50 | **4,80** |
| Бульба, 1 кг | 1,90 | **1,80** |
| Буракі, 1 кг | 1,20 | **2,20** |
| Капуста, 1 кг | 1,99 | **1,70** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,70 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 1,50 | **1,60** |
| Памідоры, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Перац, 1 кг | 7,90 | **6,90** |
| Радыс, 1 кг | 1,99 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,85 | **1,60** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 6,50 | **6,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,95 | **3,10** |
| Вінаград, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Грушы, 1 кг | 2,95 | **2,95** |
| Клубніцы, 1 кг | 5,00 | **8,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,90 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **3,95** |
| Персікі, 1 кг | 8,50 | **5,90** |
| Чарэшня, 1 кг | 10,00 | **14,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,40 | **1,40** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Муж ударыў жонку чарпаком па галаве, яна ў адказ – нажом

**МАЛАДЗЕЧНА**

Сямейны скандал усчаўся 23 мая вечарам на Маладзечаншчыне.

Сварка пачалася яшчэ днём. 59-гадовы муж, абхапіўшы рукой шыю жанчыны, прыставіў ёй да горла нож. Дзбашыр пагражаў забіць жонку. На шчасце, 56-гадовай жанчыне ўдалося вырваца з рук скандаліста.

З новай сілай канфлікт разгарэўся позна вечарам. Убачыўшы жонку на кухні з міскай фаршу ў руках, муж выхапіў чарпак і ўдарыў жонку. Падыходзячы да яе бліжэй, працягнуў выказваць пагрозы. Спалохаўшыся, жонка ўзяла са стала кухонны нож і выставіла яго перад сабой.

Са словамі «біць мяне больш не будзеш» нанесла два ўдары.

Такога заканчэння канфлікту яна і не чакала. Выбегшы з дому, патэлефанавала дачцэ, а тая паведаміла на лінію 102. Мужчыну шпіталізавалі.

Згодна з медзаключэннем, у яго цялесныя пашкоджанні, якія адносяцца да катэгорыі тых, што пацягнулі пагаршэнне здароўя. У дзеяннях жанчыны прасочваецца склад злачынства, прадугледжанага артыкулам 153. Справа адносіцца да катэгорыі прыватнага абвінавачання, узбуджаецца па заяве пацярпелага боку.

У дачыненні да агрэсара Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу па артыкуле «Пагроза забойствам». Як высветлілася, мужчына рэгулярна падымаў на жонку руку, пагражаючы распрavай. У прыватным доме ў прыгарадзе Маладзечна яны жывуць удваіх.

Дзеці і ўнукі тут госці нячастыя з-за скандалаў паміж бацькамі. Але ў міліцыю паведамленні рэдка паступалі. Летась у верасні жанчына вырашыла пакараць няўдбайнага мужа і прыцягнуць да адказнасці, але нічога не змянілася.

Калі вам стала вядома пра складаныя і няўдалыя сітуацыі у сем'ях суседзяў, сваякоў ці знаёмых, паведаміце ў РАУС па тэлефонах: **(8-0176) 77-16-56, 77-14-88, 77-44-11** альбо **102.**

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**

● УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць чысцінца, які сышоў з дому 19 год таму

**МАЛАДЗЕЧНА**



Маладзечанскі РАУС шукае **Эрыкса Андрэевіча Элксніціса** 1962 года нараджэння.

Мужчына зарэгістраваны па адрасе: Чысць, вуліца Русанава, дом 2, кватэра 406.

Эрыкс Элксніціс выйшаў з дому ў 2000 годзе, і да гэтага часу яго месцазнаходжанне невядомае.

Прыкметы: на час знікнення – 38 гадоў, худы.

У што апрануты, невядома.

Маладзечанскі РАУС просіць грамадзян, якім нешта вядома пра месцазнаходжанне Эрыкса Элксніціса, паведаміць па тэлефонах **(8-0176) 74-96-83, 77-03-12, 77-16-56, (8-029) 546-40-44** або **102.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Паехаў электрычкай на працу ў Мінск і не вярнуўся

**МАЛАДЗЕЧНА**



Маладзечанскі райаддзел унутраных спраў шукае зніклага **Генадзя Анатольевіча Шакаля**. Нарадзіўся 17 верасня 1970 года, жыве ў Алёхнавічах Маладзечанскага раёна.

16 мая каля 7:24 мужчына паехаў электрычкай на Мінск на працу і дагэтуль яго месцазнаходжанне невядомае.

Прыкметы: на выгляд 40-42 гады, рост 182 сантыметры, сярэдняга целаскладу, прамыя чорныя валасы, карыя вочы.

Быў апрануты ў чорную скураную куртку, світар, сінія джынсы, светлыя красоўкі.

Калі вам штосьці вядома пра яго месцазнаходжанне, калі ласка, паведаміце ў міліцыю на нумар: **(8-0176) 74-96-83, 77-03-12, 77-16-56, (8-029) 546-40-44** або **102.**

**Аддзел інфармацыі.**



Тут пераходзіў чыгунку 11-гадовы хлопчык.

Фота Ігара ПАЛЬЧЭНЬСКАГА.

# «Імгненне – і на вачах сшыткі разлятаюцца»

## Відавочца расказвае, як здарылася трагедыя з 11-гадовым хлопчыкам на станцыі Уша

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Непапраўнае здарылася на станцыі Уша ў 8:16 раніцы 22 мая. Хлопчыка збіў лакаматыў, ён загінуў на месцы.**

Некалькі манцёраў 23 мая працавалі на пуцях. Напярэдадні яны таксама працавалі на гэтым участку – якраз каля перахода, дзе адбылося страшнае. Манцёр пуці **Алег Пасметны** якраз вярнуўся з Маладзечна, дзе даваў тлумачэнні кіраўніцтву дыстанцыі пуці. Разам з іншымі калегамі ён распавёў, як здарылася трагедыя, каб такое не паўтарылася.

### Два ўдары пульса

Арцёму 11 год, ён хадзіў у пяты клас. 10 мая толькі справіў дзень нараджэння. 22 мая хлопчык ішоў у школу. З вёскі Канчаны дарога ідзе праз чыгуначны насціл. Хлопчык ішоў да яго.

У гэты момант манцёры пайшлі па інструмент, Алег апошні выходзіў і зачыняў бытоўку, спіной стоячы да чыгункі.

– Пачуў гудок, хлопчык хіснуўся наперад – і тут жа ўдар. Гэта секунда. Закрычаў, што дзіця трапіла пад цягнік, і ўсе пабеглі да яго. Намацалі пульс, літаральна два ўдары – і пачаў бялець на вачах.

> Работнікі чыгункі кажуць, што дактары прыехалі хутка. Але траўмы былі несумяшчальныя з жыццём.

Хлопчык ляжаў паміж пуцямі, адкінула бліжэй да першага пуці.

### Як так адбылося

– Усе ж мы яго ведалі, бачылі. Спакойны хлопчык. Нават дарослы можа разгубіцца ў такой сітуацыі, а тут жа дзіця.

Па першым пуці, бліжэйшым да Канчанаў, прайшоў пасажырскі цягнік на Маладзечна. Хлопчык стаяў і прапускаў цягнік. Але не заўважыў, што з іншага боку па другім пуці ідзе лакаматыў на Мінск. Саставы размінуліся якраз недалёка ад перахода. Верагодна, хлопчык хацеў паспець перабегчы, але не паспеў. А мог і не бачыць лакаматыў з-за апоры.

– Ён ішоў чамусьці адзін. Звычайна яго праводзіла маці. У сям'і ёсць малодшая дачка, то мама заводзіла яго ў школу, а дзяўчынку ў садок. Звычайна з Канчанаў у школу ідуць адразу некалькі дзяцей, кампаніяй, а тут адзін. Сям'я добрая, жывуць тут побач.

> Мы адразу знайшлі яго дзённік, пазванілі дырэктару школы. Яна пазваніла маці, і тая адразу прыбегла.

Па гэтым насціле заўсёды пераходзяць мясцовыя жыхары, паўсюль папераджальныя знакі. Магчыма, не лішнім было б паставіць аўтаматычны апавяшчальнік – сігналізацыю, якая папярэджвала б аб набліжэнні састава, разважаюць манцёры. Часам дзеці, ды і дарослыя, пераходзяць у навушніках, уткнуўшыся ў экраны тэлефонаў, і не глядзяць па баках.

> Але тут зусім іншы выпадак. Арцём не пераключаў увагу, а тэлефон нават не насіў у школу.

– Жудасна. Імгненне – і на вачах сшыткі разлятаюцца. І машыністу няпроста, ён экстранна затармазіў, але ўмомант спыніць лакаматыў немагчыма. Страшна і калі з дарослымі здараецца бяда, а тут дзіця. 11 год, столькі гадавалі, і ў адзін момант страціць.

Калі маці сюды прыбегла, то адразу плакала: «Навошта я цябе аднаго адпусціла».

### Добрая сям'я і добры хлопчык

Адміністрацыя і калектыў Красненскай школы спачувае сям'і з нагоды трагедыі.

Арцём быў спакойным школьнікам, які ахвотна ўдзельнічаў ва ўсіх актыўнасцях. Вучыўся на 6-7. Сям'ю характарызуюць як добранадзейную, без ніякіх праблем. Бацька працуе, маці пакуль займаецца гаспадаркай.

З дзецьмі ў школе рэгулярна праводзяць гутаркі і прафілактычныя сустрэчы па бяспецы на чыгунцы.

### Здарэнні на чыгунцы адбываюцца штогод

Як адзначае інспектар АУСТ **Сяргей Васілеўскі**, траўматычныя выпадкі на чыгунцы ў зоне абслугоўвання Маладзечанскай транспартнай міліцыі (Маладзечанскі, Вілейскі, Валожынскі, Мядзельскі раёны) адбываюцца штогод:

– Заклікаю трымацца мераў бяспекі на аб'ектах чыгункі. Будзьце асабліва пільныя, калі пераходзіце пуці.

Па факце трагічнага здарэння праводзяць праверку.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# На сустрэчу землякоў у Будзішчы прыйшло больш за 50 чалавек

ВІЛЕЙКА

**У вёсцы Будзішча, што на Вілейшчыне, сёння жыве 11 чалавек. Але 25 мая людзей было разоў у пяць больш.**

Прычына – сяброўскі фэст, што ладзяць у вёсцы ў апошнія дні мая ўжо некалькі год запар.

З усёй Беларусі сюды з'язджаюцца ўраджэнцы і колішнія жыхары. Маладзечанец **Юры Вайтовіч** у дзяцінстве прыязджаў у Будзішча да бабулі **Яўгеніі Вайтовіч**.

– Ехаў працаваць, а не гуляць, – прыгадвае мужчына. – Бабуля трымала гаспадарку. Працы хапала.

А смак бульбяной бабкі, што гатавала яна ў печцы, мужчына памятае і сёння.

А якое ў вас любімае месца ў Будзішчы? З такім пытаннем я падыходзіла да ўдзельнікаў свята.

Ураджэнец вёскі, а сёння жыхар Радашкавічаў **Міхаіл Вайтовіч** прыгадаў безназоўнае возера, на беразе якога ладзіўся фэст. Зімой тут гулялі ў хакей, летам купаліся. Была і восеньская забава.

– Падчас 1960-х гадоў саўгас разводзіў у возеры рыбу. Вясной яго зарыблівалі, а восенню спускалі ваду. Калі мы даведваліся пра гэта, то ўцякалі са школы нават праз вокны і беглі да возера, – прыгадвае субяседнік.

Другое месца – лясок каля бацькоўскай хаты. Тут збіралася моладзь. Палілі вогнішча, гулялі ў валейбол.

Прыгадаў Міхаіл, як Будзішча і Калодчына гулялі ў футбол. Гульцоў набраць было лёгка: у Вайтовічаў – чатыры сыны, у суседзяў сем – вось і футбольная каманда.

– Ох, нашы мясціны ў Будзішчы даўно пазарасталі травой, – прыгадвае стараста вёскі пастаянны арганізатар сяброўскіх фэстаў **Наталля Дуровіч**.

Для мінчанкі **Юлі Дуровіч** – знакавае месца дом бабулі і дзядулі.

На сустрэчы былі і настаўнікі з Суднікоўскай васьмігодкі – **Галіна і Мікола Кутасы, Алена Нарэйка**. У школе вучыліся дзеці з Будзішча, Крыніцы, Баяраў, Барсукоў.

– У школу ў Суднікі я прыйшла ў 1970 годзе і працавала дзесяць гадоў. Выкладала рускую і беларускую мовы і літаратуры і этыку. Вучылася завочна на філфаку ў БДУ. Працаваць было складана і цікава. Удзячная тагачаснаму дырэктару школы Міколу Кутасу за добрыя парады, – прыгадала **Алена Нарэйка**.

Штогод свята мае сваю фішку. Сёлета іх было некалькі.

Гастрафэст

Падарункі – прыхваткі са словамі «Будзішча. Сяброўскі фэст-2019»

Скрыня кубкаў – падарунак будзеўцам ад старшыні Ільянскага сельсавета **Аляксандра Мікуцкага**

Песні ад народнага гурта ільянскага Дома культуры «Смехата» і ўзорнага калектыву аўтарскай песні «Імпэт».

Хаця была і яшчэ адна фішка: скрыню для галасавання на гастрафэсце аздобілі… «Рэгіянальнай газетай».

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**




Юлія Дуровіч з адмысловай скрыняй для галасавання.

# Чыгунка – гэта зона павышанай небяспекі

**Паважаныя чытачы! Чыгунка – гэта зона павышанай небяспекі, дзе галоўным траўмуючым фактарам быў і застаецца наезд рухомага саставу, высокае напружанне ў кантактным провадзе. Таму знаходжанне людзей у зоне чыгункі можа быць смяротна небяспечным.**

Але ёсць людзі, якія, гледзячы на плакаты, што прапагандуюць Правілы бяспекі грамадзян пры знаходжанні ў зоне павышанай небяспекі, усё роўна працягваюць іх парушаць. Больш за ўсё здзіўляе тое, што так робяць дарослыя, якія падаюць прыклад сваім дзецям і ўнукам, забываючы, што, у канчатковым выніку, яны рызыкуюць жыццём.

Дзіцячы траўматызм выклікае асаблівую трывогу ва ўмовах развіцця высакахуткаснага руху. Бо дзеці не заўсёды могуць ацаніць рэальную небяспеку. Грэбуючы існуючай забаронай, некаторыя з іх самастойна знаходзяцца на чыгуначных пуцях, чапляюцца за аўтасчэпкі і падножкі вагонаў. Свавольства не застаецца непакараным, дзеці атрымліваюць траўмы рознай цяжкасці і, як правіла, застаюцца інвалідамі.

З пачатку 2019 года па Маладзечанскай дыстанцыі пуці былі тры выпадкі траўмавання грамадзян на чыгуначных пуцях:

у студзені на перагоне Палачаны-Валожын цягнік наехаў на мужчыну, які ляжаў на рэйкавай каляіне на шляху руху цягніка;

у лютым былі два выпадкі траўмавання:

на п.п. «Зялёнае» быў траўмаваны мужчына, цела якога ляжала ў дзесяці метрах ад пасадачнай платформы;

на чыгуначным пераездзе станцыі Уша быў траўмаваны мужчына, які пераходзіў па пешаходным пераходзе чыгуначнага пераезда ў непасрэднай блізкасці ад цягніка, які набліжаўся.

Усе выпадкі траўмавання грамадзян адбыліся па прычыне незахавання правілаў знаходжання на чыгуначных пуцях і ўласнай бездакзнасці і неасцярожнасці ў зоне павышанай небяспекі паблізу чыгункі на перагонах і станцыях.

Аналіз няшчасных выпадкаў з грамадзянамі, не звязанымі з вытворчасцю, паказаў, што колькасць няшчасных выпадкаў застаецца высокай, гэта выклікае сур'ёзную трывогу за жыццё і здароўе людзей, якія карыстаюцца чыгуначным транспартам і якія жывуць каля чыгункі.

### Правілы бяспечных паводзін на чыгуначным транспарце:

1. Пераходзьце чыгуначныя пуці толькі ва ўстаноўленых месцах, па насцілах, а таксама ў месцах, дзе ўсталяваны ўказальнікі «Пераход праз пуці».

2. Перад пераходам праз пуці па пешаходным насціле пераканайцеся ў адсутнасці рухомага саставу цягніка, лакаматыва, вагонаў.

3. Пры набліжэнні цягніка, лакаматыва ці вагонаў спыніцеся, прапусціце іх і, пераканаўшыся ў адсутнасці рухомага саставу на суседніх пуцях, ідзіце далей.

4. Падыходзячы да чыгуначнага пераезда, уважліва сачыце за светлавой і гукавой сігналізацыяй, а таксама становішчам шлагбаума. Пераходзіць пуці можна толькі пры адкрытым шлагбауме, а пры яго адсутнасці, перш чым перайсці пуці, неабходна пераканацца, ці не набліжаецца да пераезда цягнік, лакаматыў або вагон.

5. Садзіцеся ў вагоны і выходзьце з вагонаў толькі пасля поўнага спынення цягніка з боку пасадачнай платформы.

**ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

1. Хадзіць па чыгуначных пуцях.

2. Пераходзіць і перабягаць праз чыгуначныя пуці перад блізка ідучым цягнікам, калі адлегласць да яго менш за 400 метраў.

3. Пераходзіць праз пуці адразу ж пасля праходу цягніка аднаго кірунку, не пераканаўшыся ў адсутнасці руху цягніка па сустрэчнаму кірунку.

4. Выходзіць з вагона на міжпуцці і стаяць там пры праходзе сустрэчнага цягніка.

5. На станцыях і перагонах падлазіць пад вагоны і пераламіць праз аўтасчэпкі для праходу праз пуці.

6. На электрыфікаваных участках набліжацца да неабгароджаных правадоў або частак кантактнай сеткі і паветраных ліній электраперадач (ПЛ), падымацца на электраапоры.

7. Набліжацца да электраправаду, які ляжыць на зямлі, бліжэй за 8 метраў.

8. Праходзіць уздоўж чыгуначнага пуці бліжэй за 5 метраў ад крайняй рэйкі.

9. Падлазіць пад закрыты шлагбаўм на чыгуначным пераездзе, а таксама выходзіць на пераезд, калі шлагбаўм пачынае закрывацца.

10. Ездзіць на дахах, падножках, пераходных пляцоўках вагонаў.

11. Высоўвацца з вокнаў вагонаў і дзвярэй тамбураў на ходу цягніка.

12. Заходзіць за лінію бяспекі ля краю пасажырскай платформы.

13. Скакаць з платформы на чыгуначныя пуці.

14. Наладжваць на платформе розныя рухомыя гульні.

15. Праходзіць па чыгуначных мастах і тунэлях, якія не прызначаныя для пераходу пешаходаў.

16. Бегчы па платформе побач з вагонам цягніка, які прыбывае ці адыходзіць, а таксама знаходзіцца бліжэй за два метры ад краю платформы падчас праходжання цягніка без прыпынку;

17. Пакідаць дзяцей без нагляду на пасадачных платформах і ў вагонах.

18. Правозіць у вагонах лёгкаўзгаральныя і выбуховыя рэчывы.

19. Курыць у вагонах (у тым ліку ў тамбурах) прыгарадных цягнікоў, ва не ўстаноўленых для курэння месцах у цягніках мясцовых і далёкіх шляхоў зносін.

Паважаныя чытачы газеты! Мы хочам вам усім пажадаць здароўя, і каб вы заўсёды выконвалі правілы паводзін на чыгунцы, не падвяргалі сваё жыццё і тых, хто побач, небяспецы, не праходзілі міма дзяцей, якія парушаюць правілы паводзін на аб'ектах чыгуначнага транспарту.

**Маладзечанская дыстанцыя пуці.**

УНП 600199567.

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета. Rh.by

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Гума летняя на дысках, новая, 4 шт. PROXES CF 2 205/55 R16/ Т. (8-029) 6359630.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 1563334.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000). Тэл. (8-033)3668181.*

• Каталізатар б/у. Т. (8-029) 9357762.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1/2 долі ў 2-пакаёвай кватэры г. Слуцка, вул. Леніна, д.191, 2/3 – 26 650 рублёў. Скіну 1 000 руб. на выдзяленне долі. Магчымы абмен на пакой у Мінску альбо 1-пакаёвую кватэру ў Мінскім раёне з маёй даплатай. Т. (8-025) 9381211, (8-029) 5709076.

• 1,5-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул.Маладзёжнай, дом 25. 1 паверх, 41 кв.м, 22 кв.м пакой, 8,6 кв.м кухня. Тэл. (8-029) 1268894, (8-029) 1722725.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы з еўрарамонтам альбо памяняю на Мінск. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў г.п. цукровага завода «Гарадзея» Нясвіжскага раёна. Плошча – 44,3 кв.м, 2 паверх. Т. (8-033) 3423075, (8-0176) 541355.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Скарыны, 36; 1/5 к, 2002 г.п., 49,2/27/8,9 кв. м, дзве зашклёныя лоджыі, уцепленая падлога, нацяжная столь, еўрарамонт, кухня па спецзаказе, выдатны стан. Т. (8-029) 3176269.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Чкалава, 8. Цана 70 тысяч рублёў + торг. Т. (8-029) 9279144.*

• 3-пакаёвая кватэра на 5 паверсе. Выдатны рамонт. Т. (8-029) 5729941.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына,16-3 альбо абмяняю на 2-пакаёвую з вашай даплатай. Т. (8-029) 8787785.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, 2 у добрым стане. Т. (8-029) 7039162.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, побач гараж з ямай і падвалам. Мэбля па жаданні. Т. (8-029) 5585482.*

• Гараж у ГБК «Зеніт», 2002 г., з дакументамі. Т. (8-029) 7613151.

• Гараж у ГБК 1. Яма, склеп, абшыты вагонкай. Т. (8-029) 5729941.*

• Дача ў в. Алянец, 22 км ад Маладзечна. Участак 5,6 соткі. Дом 30 кв. м. Цана 16 000 рублёў + торг. Т. (8-029) 9279144.*

• Дом драўляны у в.Старыя Баруны (Смаргонскі раён), 25 сотак. Тэл. (8-029) 775-49-75.*

• Дом драўляны ў в. Замошша, дом 8, Вілейскага раёна, 6х12, 72 кв. м, участак 20 сотак, святло, калодзеж, дзве печы. Т. (8-029) 2709140.*

• Дом драўляны ў Маладзечне па вул. Ціхай, 67 кв. м, 4 жылыя пакоі, участак 0,06 га, газ, вада, тэлефон. Ёсць лазня, бетонны склеп, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 7640363, (8-029) 5782084.*

• Дом жылы цагляны, 7 км ад Маладзечна, 56/52,5/7,6, 3 пакоі, водаправод, санвузел, шклопакеты, участак 25 сотак (агароджаны). Т. (8-033) 6621382.*

• Дом у в. Забродdзе Даўгінаўскага с/с Вілейскага раёна, гаспадарчыя пабудовы, вялікі ўчастак, зямля ва ўласнасці. Т. (8-029) 6799099, (8-029) 8788264.*

• Дом у в. Засценкі Вілейскага раёна, Іжанскі с/с. Цана дагаворная. Т. (8-033) 3513656.*

• Дом у в. Засценкі Вілейскага раёна. Т. (8-033) 6181069.*

• Дом у в. Шастакі, 13 км ад Смаргоні. Нядорага. Т. (8-029) 8724272.

• Дом у Вілейцы з усімі выгодамі, агульная плошча 78 кв. м. Т. (8-029) 7609173.

• Дом, 15 сотак, у в. Снежкава Вілейскага раёна, ёсць лазня, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 6955302.*

• Участак у в. Порса. 30 сотак. Побач газ. Т. (8-029) 1214671.*

### КУПЛЮ

• Дом або кватэру ў Мінскай вобласці. Тэл. (8-029) 1514441.*

### ЗДАМ

• Пакой у кватэры ў Маладзечне. Т. (8-029) 5019550.*

### НАЙМУ

• Дом невялікі або частку дома з каналізацыяй, раён чыгуначнай станцыі Маладзечна. Доўгатэрмінова, ад чэрвеня. Тэлефон і вайбер: (8-029) 8781760, Аляксандра.

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайныя фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ** любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./ кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, манітораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Усё для даху і агароджы. Металапракат. Металачарапіца. Прафнасцiл. Металаштыкетнік. Труба профільная і г. д. Дахавыя (кровельные) работы. Замер. Дастаўка. ІП Смолка М. В. УНП 691185021. Т. (8-029) 1247481.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла шамотная 0,5 р., шклаблокі 1,50 р. б/у. Т. (8-033) 3377298.

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Міні-трактар «Зубр» 240Д, 2014 г.в. Падрабязнасці па тэлефоне. Т. МТС (8-029) 5117644, Вэлком (8-029) 9689639, дамашні (8-0176) 525156.*

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік. Т. (8-029) 3395974.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Антэна спадарожнікавая. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты: бройлерныя КОББ-500, кураняты-нясушкі, цасаркі. Дастаўка. Т. МТС (8-033) 6908397, Вэлком (8-029) 6938397.*

• Карова дойная, цялушка 14 мес., бычкі. Т. (8-025) 7894666.

• Козачкі маладзенькія (3 мес.) ад высокаўдойных коз. Т. (8-029) 5622787.*

• Козы дойныя пародзістыя. Валожынскі раён. Т. (8-029) 6433476.*

• Парасяты 7 тыдняў, дойныя козы, казляняты. Т. (8-029) 6027575.*

• Парасяты белыя свойскія, 6 тыдняў, па 100 рублёў. Т. (8-029) 8771541.

• Цяля 1,5 месяца. Т. (8-029) 2725536.

**Іншае**

• Бульба ранняя, насенная і чырвоная вялікая. Т. (8-033) 6604937.

• Павільён на рынку райспажыўтаварыства (калгасны рынак) па адрасе: г. Маладзечна, вул. Б. Хмяльніцкага, 3-г, 6 кв.м. Т. МТС (8-033) 3542356.

• Станок для апрацоўкі дрэва, швейную машыну з электрапрыводам. Цана дагаворная. Т. (8-01771) 20630.

• Электрамаслабойка новая расійскай вытворчасці. Т. (8-033) 3423075.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **ЖК-ТЭЛЕВІЗАР**, ЖК-манітор, ноўтбук, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2572438.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Літаратуру на польскай або іншых заходнеславянскіх мовах. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.*

### ІНШАЕ

• Вазьму спадарожнікаў у Беласток. Бясплатна. Т. (8-029) 2664373.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Прадавец з досведам працы на рынак райспажыўтаварыства (калгасны рынак) на адзенне. Аплата добрая! Т. МТС (8-033) 3542356.

# Ідэолаг, машыністы, начальнікі. Самыя высокааплатныя вакансіі мая

Мы праверылі агульнарэспубліканскі банк вакансій, якія самыя высокааплатныя пазіцыі прапаноўвалі ў маі па кожным з раёнаў нашага рэгіёна. І выбралі па тры самыя вышэйшыя пазіцыі.

**МАЛАДЗЕЧНА**

*Галоўны тэхнолаг, ад 1400 рублёў*

Для гэтай вакансіі патрабуецца досвед працы не менш за тры гады.

*Галоўны інжынер, ад 1350 рублёў*

*Кіроўца аўтамабіля, ад 1200 рублёў*

Ад кандыдатаў патрабуюць агульную базавую адукацыю і не менш за два гады стажу кіроўцы.

**ВІЛЕЙКА**

*Дырэктар сельскагаспадарчага прадпрыемства, ад 1200 рублёў*

У Людвінова шукаюць кіраўніка гаспадаркі. З патрабаваннў – вышэйшая адукацыя.

*Станочнік дрэваапрацоўчых станкоў, ад 900 рублёў*

Трэба прафесійна-тэхнічная адукацыя. Спецыяліст будзе працаваць па зменным графіку.

*Інжынер, ад 800 рублёў*

Геадэзіст з вышэйшай адукацыяй, будзе працаваць у адну змену.

**ВАЛОЖЫН**

*Галоўны энергетык, ад 1100 рублёў*

Такі спецыяліст патрабуецца ў Пяршаі.

*Медсястра, ад 800 рублёў*

Медыцынская сястрадыетолаг патрабуецца ў арганізацыю ў Ракаве.

*Галоўны інжынер, ад 750 рублёў*

**МЯДЗЕЛ**

*Дырэктар сельскагаспадарчага прадпрыемства, ад 1240 рублёў*

*Метадыст, ад 1100 рублёў*

У раён трэба спецыяліст па методыцы навучання і выхаваўчай рабоце з вышэйшай педагагічнай адукацыяй.

*Інжынер, ад 1000 рублёў*

Кандыдат павінны мець не менш за пяць год стажу, станоўчыя характарыстыкі і адукацыю па спецыяльнасці «прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва».

**СМАРГОНЬ**

*Трактарыст-машыніст, ад 1500 рублёў*

У сельскагаспадарчае прадпрыемства патрэбны спецыяліст з прафесійна-тэхнічнай адукацыяй.

*Машыніст лесанарыхтоўчай машыны, ад 1200 рублёў*

*Машыніст экскаватара, ад 1000 рублёў*

**АШМЯНЫ**

*Начальнік, ад 1600 рублёў*

У адно з дарожна-эксплуатацыйных упраўленняў патрэбны кіраўнік. Трэба вышэйшая адукацыя.

*Галоўны інжынер, ад 1260 рублёў*

У райцэнтр патрэбны спецыяліст з вышэйшай адукацыяй.

*Начальнік, ад 1113,95 рубля*

Райвыканкам шукае кіраўніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі з вышэйшай адукацыяй.

**АСТРАВЕЦ**

*Начальнік змены блока АЭС, ад 4386,15 рубля*

*Галоўны спецыяліст на АЭС, ад 3774,02 рубля*

*Інжынер-праграміст на АЭС, ад 2755,53*

**Эмілія ХВОЯ.**

## Беларусь 1

**6.20** «Існасць».

**6.45, 21.45** Х/ф **«ЛЮБОВЬ НЕ ДЕЛИТСЯ НА 2».**

**8.15** «Кулинарная дипломатия».

**8.50** Выпускныя экзамены па беларускай і рускай мовах, па матэматыцы за перыяд навучання і выхавання на II ступені агульнай сярэдняй адукацыі.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Маршрут построен».

**9.50** «Здоровье».

**10.40** «Дача» [СТ].

**11.20, 12.10** Х/ф **«ОБУЧАЮ ИГРЕ НА ГИТАРЕ».**

**15.15** «Краіна».

**15.45** Т/с **«СВАТЫ 5».**

**16.50** Х/ф **«АННА».**

**21.00** «Панорама».

**0.55** «День спорта».

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«ЦЕНТРАЛЬНАЯ БОЛЬНИЦА».**

**8.35, 21.55** «Телебарометр».

**8.40** Х/ф **«ХРАНИТЕЛИ СНОВ».**

**10.10** «Погоня за вкусом». Кулинарное трэвел-шоу.

**11.05** «Кто я?».

**11.25** «Копейка в копейку».

**12.00** «Камень, ножницы, бумага».

**12.35** «Муж напрокат». Реалити-шоу.

**13.35** «Свадебный размер». Реалити-шоу.

**14.35** Фантастические приключения «Валериан и город тысячи планет».

**16.50** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.40** «До свидания». Реалити-шоу.

**18.25** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА 2».**

**20.25** Х/ф **«ПОЛНОЧНОЕ СОЛНЦЕ».**

**22.00** КЕНО.

**22.05** Х/ф **«ТРАНСФОРМЕРЫ».**

## Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».

**8.00, 14.40, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 15.00, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** Мультфільм.

**8.35** «Белыя росы». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Жывая культура». Традыцыйная тэхналогія выпечкі жытняга хлеба ў вёсцы Дзеркаўшчына Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці.

**10.30** «Беларуская кухня». Куханы.

**10.55** «Снайпер. Зброя помсты». Мастацкі фільм.

**14.10** «Навукаманія».

**15.05** «Віртуозы». Канцэрт выпускнікоў Рэспубліканскай гімназіі-каледжа, прысвечаны 30-годдзю аркестра.

**16.00** «Тры таполі на Плюшчысе». Мастацкі фільм [СТ].

**17.20** «Дзесяць фатаграфій». Наталля Белахвосцікава.

**18.00** «Законны шлюб». Мастацкі фільм.

**19.30** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць — выдавец, гісторык Андрэй Янушкевіч.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Вазьму твой боль». Мастацкі фільм [СТ].

**22.30** Урачыстае адкрыццё XIX Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2019». Канцэрт «Песні вайны», прысвечаны 75-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** «Играй, гармонь любимая!».

**8.00** К 90-летию певицы. Премьера. «Людмила Зыкина. «Опустела без тебя земля…».

**9.10** ОНТ представляет: «Хит на завтрак».

**9.50** «Теория заговора».

**10.45** «Идеальный ремонт».

**11.55** «Вокруг смеха».

**12.30** Т/с **«СЛОМАННЫЕ СУДЬБЫ».**

**16.20** «Кто хочет стать миллионером» с Дмитрием Дибровым.

**18.00** «Сегодня вечером».

**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.10** Т/с **«ПОКА ЖИВУ, ЛЮБЛЮ».**

**0.40** «Иннокентий Смоктуновский. За гранью разума».

## СТВ

**6.10** «Пища богов».

**7.50** «Анфас».

**8.10** «Самая полезная программа».

**9.00** СТВ представляет: «Тайны Беларуси».

**10.00** «Минск и минчане».

**10.35** «Центральный регион».

**11.05** «Водить по-русски».

**11.30, 13.40, 16.50, 20.05** Т/с **«МЕЧ 2».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**19.55** «СТВ спорт».

**22.00** Документальный спецпроект.

**1.10** Т/с **«МЕТОД».**

## Мир

**6.00** Мультфильмы.

**6.15** «Миллион вопросов о природе».

**6.25** «Союзники».

**6.55** «Такие разные».

**7.25** «Секретные материалы».

**8.00** «Любовь без границ».

**9.00** «Ой, мамочки!».

**9.25** «Рожденные в СССР».

**10.00, 16.00, 19.00** Новости.

**10.15** «Как в ресторане».

**10.45, 16.15, 19.15** Т/с **«ОТТЕПЕЛЬ».**

**1.50** Х/ф **«МЕДОВЫЙ МЕСЯЦ».**

**3.30** Х/ф **«ТАНЦУЙ ТАНЦУЙ».**

## НТВ-Беларусь

**6.10** «Астропрогноз».

**6.20** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.50** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.

**7.20** «Подозреваются все».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by».

**8.50** «Врачебные тайны плюс».

**9.25** «Города Беларуси».

**10.25** Главная дорога.

**11.05** «Еда живая и мёртвая».

**12.00** Квартирный вопрос.

**13.05** «Поедем, поедим!».

**14.00** Т/с **«ПОБЕДИТЕЛИ».**

**16.25** «Следствие вели…».

**17.05** «Секрет на миллион». Анастасия Стоцкая.

**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.

**20.35** «Ты супер!». До и После.

**22.15** Х/ф **«МОЙ ГРЕХ».**

**0.05** Х/ф **«МИРОВАЯ ЗАКУЛИСА. ТАЙНА ВЕЧНОЙ ЖИЗНИ».**

## Беларусь РТР

**7.00** «Утро Беларуси».

**10.00** «Сто к одному».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Тайны Беларуси «.

**12.30** Х/ф **«ПУШКИН».**

**14.25** Х/ф **«ПЕТРОВКА, 38».**

**16.10** Х/ф **«БЕЗ ПРАВА НА ОШИБКУ».**

**19.45** «Плюс минус».

**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.

**20.55** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.

**22.55** Х/ф **«НА РАССВЕТЕ».**

## кіно і спорт

### TV1000

**6.40, 17.50** Улыбка Моны Лизы. **9.15** В гостях у Элис. **11.15** Области тьмы. **13.25** Джуманджи: Зов джунглей. **15.30** Византия. **20.10** Дети шпионов 2: Остров несбывшихся надежд. **22.15** К-19. **0.50** Сфера. **2.50** Капитан Филлипс. **5.10** Супер Брис.

### TV1000 ACTION

**7.05** Отпетые напарники. **9.10** Линкольн для адвоката. **11.30** Взрыв. **13.20** Дуэль. **15.30** Настоящая МакКой. **17.30** Добро пожаловать в Zомбилэнд. **19.20** Защитник. **0.20** Уцелевшая. **2.15** Солт. **3.55** Уловка 44. **5.25** Безбашенные.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** 9 рота. **9.10** Всё о мужчинах. **10.50** Пятница. **12.40** Черная курица, или Подземные жители. **14.10** Одной левой. **15.55** За гранью реальности. **18.05** Призрак. **20.20** Карп отмороженный. **22.15** Чёрная вода. **0.25** Селфи. **2.35** Ну, здравствуй, Оксана Соколова! **4.25** Чемпионы: Быстрее. Выше. Сильнее.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.00, 11.00, 13.00** Т/с **«ГРИММ». 12.00** Х/ф **«БЕТХОВЕН 2». 14.00** Х/ф **«СЕРДЦЕ ДРАКОНА». 16.00** Х/ф **«ГЛАДИАТОР». 19.00** Х/ф **«300 СПАРТАНЦЕВ: РАСЦВЕТ ИМПЕРИИ». 21.00** Х/ф **«ЦАРСТВО НЕБЕСНОЕ». 0.00** Х/ф **«БЕОВУЛЬФ». 2.00** Х/ф **«БЕЛОСНЕЖКА: СТРАШНАЯ СКАЗКА». 3.45** Х/ф **«КУЛЛ-ЗАВОЕВАТЕЛЬ». 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ЖАРКИЙ ЛЕД». 12.00, 13.00** Т/с **«АЗИАТ». 14.00, 15.00** Т/с **«ФАЛЬШИВОМОНЕТЧИКИ». 20.00, 21.00** Т/с **«БЛИЗНЕЦЫ». 22.00, 23.00** Т/с **«ЖИЗНЬ И ПРИКЛЮЧЕНИЯ МИШКИ ЯПОНЧИКА». 4.00, 5.00** Т/с **«ВОЛЬФ МЕССИНГ: ВИДЕВШИЙ СКВОЗЬ ВРЕМЯ». 6.00, 7.00** Т/с **«ЛИКВИДАЦИЯ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.20** Х/ф **«МИСТЕР ФЕЛИЧИТА». 2.55** Х/ф **«УМОПОМРАЧИТЕЛЬНЫЕ ФАНТАЗИИ ЧАРЛИ СВОНА – ТРЕТЬЕГО». 4.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ С РИСКОМ ДЛЯ ЖИЗНИ». 6.05** Х/ф **«ВТОРАЯ ЖИЗНЬ УВЕ». 8.20** Х/ф **«ОТПЕТЫЙ МАЧО». 10.05** Х/ф **«ДА ЗДРАВСТВУЕТ ФРАНЦИЯ!». 12.00** Х/ф **«СВАДЬБА ПО ОБМЕНУ». 13.50** Х/ф **«ГУЛЯЙ, ВАСЯ!». 15.45** Х/ф **«СЕКС НА ДВЕ НОЧИ». 17.25** Х/ф **«МОЙ ЕДИНСТВЕННЫЙ». 19.30** Х/ф **«ПЕНЕЛОПА». 21.25** Х/ф **«ЕСЛИ БЫ Я БЫЛА МУЖЧИНОЙ». 23.20** Х/ф **«УБОЙНЫЙ ОГОНЕК».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.10, 1.10, 2.00, 2.55** Опасное заблуждение. **4.00, 5.00, 6.05, 7.05, 8.00, 9.05** Рокко Скьявоне. **9.55, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00** Инквизитор. **16.00, 17.05, 18.10, 19.10, 20.15, 21.15, 22.15, 23.15** Частица вселенной.

### ВТВ

**6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.10** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.35** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **10.00** Мультфильмы «МАШКИНЫ СТРАШИЛКИ». **10.25** Скетч-шоу «ОСТОРОЖНО: ДЕТИ!». **11.15** Х/ф **«03: ВОЗВРАЩЕНИЕ В ИЗУМРУДНЫЙ ГОРОД». 13.00** Travel-шоу «РУССО ТУРИСТО». **14.00** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **15.00** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК». 17.15, 19.40, 22.25, 23.25** Прогноз погоды на неделю. **17.20** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК 2». 19.45** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК 3: ВРАГ В ОТРАЖЕНИИ». 22.30** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ» с Михаилом Шацем. **23.30** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **0.00** Х/ф **«СУПЕР МАЙК». 2.05** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **3.00** «ХОЧУ ВЕРИТЬ!» с Борисом Корчевниковым. **4.35** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.45** Теннис. Ролан Гаррос. Мужчины. 1/2 финала. **8.50** Футбол. Квалификация к ЧЕ-2020. Украина – Сербия. **10.40** Наша Олимпиада. **11.10** Футбол. Чемпионат мира. Женщины. Франция – Южная Корея. **13.05** Большой спорт. **13.50** Футбол. Квалификация к Евро-2021 (U-21). Беларусь – Гибралтар. **15.55** Тренировочный день. **16.30** Спорт-центр. **16.45** Волейбол. Золотая Евролига. Женщины. Азербайджан – Беларусь. **18.50** Волейбол. Золотая Евролига. Мужчины. Чехия – Беларусь. **20.50** Футбол. Квалификация к ЧЕ-2020. Превью. **21.20** Футбол. Квалификация к ЧЕ-2020. Беларусь – Германия. **23.30** Футбол. Квалификация к ЧЕ-2020. Дневник игрового дня. **0.05** Теннис. Ролан Гаррос. Женщины. Финал.

### EUROSPORT

**0.05, 2.30, 4.00, 7.30, 11.30, 12.45, 14.15** Теннис. «Ролан Гаррос». 1/2 финала. **2.00, 6.00, 20.00** «Гейм, Шетт и Матс». **6.30, 10.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Матч дня. **9.00** WATTS. **9.30, 10.00** Стрельба из лука. Кубок мира. Анталья. **15.45, 18.00** «Гейм, Шетт и Матс»-экстра. **16.00, 20.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Женщины. Финал. **18.15** Теннис. «Ролан Гаррос». Мужчины. Пары. Финал. **22.00** Супербайк. Этап чемпионата мира. Херес. Первая гонка. **22.20** Конный спорт. Global Champions Tour. Канны.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Мир танков. **6.20, 9.15, 11.45, 15.00, 18.00, 22.25, 0.40, 3.05** Итоговые новости. **6.30** Трасса А2. **8.05** Обновление. **8.15** Тест на «Драйве». **8.45** Комплектация. **9.30** Сити-тестер. **10.00** Кастомайзинг по-русски. **10.30** Испытание на прочность. **10.55, 19.35, 22.55, 3.20** Металлоломщики. **12.00, 20.25, 23.40, 4.05** Автодело. **12.25, 20.55, 0.15, 4.35** Поездка выходного дня. **12.55, 15.15** Двухколесный тюнинг. **16.45, 18.20** Мото тест-драйв. **21.20, 5.00** Автомобильные музеи мира. **21.55, 5.30** Гараж для двоих. **22.40** Дома на колесах. **0.05, 3.00** Наезд! **0.55** Байки про байки. **2.45** Хорошо забытое.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.35, 8.25** Переделка старья. **9.15, 10.00, 10.50, 11.35** Австралийские золотоискатели. **12.25, 13.10** Австралийские охотники на лобстеров. **14.00, 14.45, 15.30** Поисковая команда в Австралии. **16.20, 17.10** Короли разрушения. **18.05, 18.25, 18.50, 19.15** Грузовые войны: Великобритания. **19.40, 20.30** Большое рыболовное состязание. **21.20** Надсмотрщик. **22.10** Тренировка по древним традициям. **23.00, 0.00** Рэй Донован. **1.00, 1.45** Уникальные дома из дерева. **2.35** Речные чудовища. **3.30, 4.15** Выживание в лесу. **5.00, 5.30** Невероятные изобретения.

### HISTORY

**6.00, 4.00, 4.55** Музейные тайны. **7.15, 5.40** Запретная история. **8.00, 9.05** Вулканическая одиссея. **8.10, 9.20** Наполеон: Египетская кампания. **10.25** Охота на Клауса Барби. **11.35** Охота за сокровищами нацистов. **12.35** Безумцы с «Батавии». **13.45** Затерянный город гладиаторов. **14.45** Шелковый путь между Востоком и Западом. **15.50** Первые люди. **17.00** Падение империи. **20.00** Вторая мировая в цвете. **21.10** Восемь дней, которые создали Рим. **22.00, 23.05** Николай и Александра: последние монархи России. **0.05** История оружия. **1.05** Боевые корабли. **2.00** Тайная война. **3.05** Заговор.

### NATURE

**6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00** Животные инстинкты с Крисом Хамфри. **8.30, 9.25, 10.20, 11.15, 12.10** Речные чудовища. **13.05, 14.00, 14.55** Могучие реки. **15.50, 16.40** Вулканическая одиссея. **17.30** Вулканы: двойное разрушение. **18.35** Жизнь на вулкане. **19.40, 2.25, 3.15** Хищные питомцы. **20.30, 21.20** Свирепые животные. **22.15** Дикие Филиппины с Найджелом Марвеном. **23.05, 23.50** Война за животных. **0.40, 1.30** Жуткие, настоящие и странные. **4.10, 5.05** Суперветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.15** Увлекательная наука. **6.35, 7.25** Панорама 360. **8.10, 11.55, 3.40** Авто-SOS. **8.55** Служба спасения Аляски. **9.40** Короли шахт. **10.25, 11.10** Золото Юкона. **12.40, 13.25** Дикий тунец: Север против Юга. **14.10, 14.55** Расследование авиакатастроф. **15.45, 19.00, 21.25, 22.10** Осушить океан. **16.30** Осушить океан: глубоководные загадки. **17.20** Годы опасной жизни. **18.10, 20.35** Враждебная планета. **19.45** Герои Средиземноморья. **23.00, 23.45** День «Д»: Жертва. **0.35** Чудесная посадка на Гудзон. **1.20** Американская мафия изнутри. **2.05, 2.50** Граница. **4.25** Инженерные идеи. **5.15, 5.35** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.45** Какая дичь! **6.15, 22.55** Камера, мотор… рыба! **6.40, 23.55** Рецепты старого Тифлиса. **6.55, 12.05, 18.10** Смертельный улов. **7.45, 12.50, 19.00** Две на одного. Оружие. **8.00** Рыбалка-шоу ТВ. **8.25** На рыбалку с охотой. **9.00, 15.35, 20.45, 3.10** Рыбалка сегодня XL. **9.30, 16.05, 21.15, 3.35** Спиннинг на камских просторах. **10.00, 21.45** Рыбалка сегодня. **10.15** Профессиональная рыболовная лига 2018. **10.45, 22.25** Кодекс охотника. **11.00, 17.40, 1.05, 5.05** Трофеи. **11.30, 19.15, 1.30, 5.30** Водный мир. **13.05** Рождение клинка. **13.35** Рыбалка 360. **14.05** Рыбалка в России. **14.35, 2.15** Поплавочный практикум. **15.10, 2.45** По рекам России. **16.40, 4.05** Карпфишинг. **17.10, 4.35** Рыболовы. **19.45** Тропа рыбака. **20.15** Поймай и сними. **22.00** Охота: собачья работа. **23.25** Беларусь: в поисках хорошего клева. **0.10** Рыболовные путешествия. **2.00** Дело вкуса.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.50, 13.50, 17.55, 21.40, 2.20** Дома на деревьях (сезон 2). **6.50, 10.35, 14.35, 22.25, 3.05** Готовим на Майорке. **7.05, 10.50, 14.50, 18.55, 22.40, 3.20** Городские дачники. **7.35, 11.20, 15.20, 19.25, 23.10, 3.45** У мангала. **8.05, 11.50, 23.40** Домик в Америке. **8.30, 12.20, 16.20, 20.20, 0.05, 4.35** Домоводство. **8.50, 16.35, 20.40, 0.25, 4.50** Дачная энциклопедия. **9.20, 13.05, 17.05, 21.10, 0.55, 5.20** Лавки чудес. **12.35** Ботаника с Павлом Стерховым. **13.35, 17.35, 2.05** Свечной заводик. **15.50, 19.50, 4.10** Дачный эксклюзив. **18.35** Детская мастерская. **1.25** Вот блин! Спецвыпуск. **1.40** Зеленая аптека. **5.45** Травовед.

## Беларусь 1

**6.25, 9.45** Т/с **«СВАТЫ 5».**

**7.25** Х/ф **«ЛЮБОВЬ НЕ ДЕЛИТСЯ НА 2».**

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**10.50** «На вылет!» Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**11.35** «Игры.by».

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** «Маршрут построен».

**13.10** Х/ф **«КОГДА МЕНЯ ПОЛЮБИШЬ ТЫ».**

**15.15** «Твой город».

**15.30** «Вокруг планеты».

**16.20 Т/ф «ВСЕ ПУТЕМ».**

**16.40** Х/ф **«ДЕВУШКА С ПЕРСИКАМИ».**

**20.40** Навіны надвор'я.

**21.00** «Главный эфир».

**22.10** Х/ф **«АННА».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«ЦЕНТРАЛЬНАЯ БОЛЬНИЦА».**

**8.30, 20.00** «Телебарометр».

**8.35** Т/с **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ».**

**9.35** «Мир наизнанку. Япония». Трэвел-шоу.

**10.25** «ЖаннаПожени». Реалити-шоу.

**11.30** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА 2».**

**13.35** Х/ф **«ТРАНСФОРМЕРЫ».**

**15.55, 23.35** «Орел и Решка. Рай и ад «. Трэвел-шоу.

**16.55** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.55** «Битва экстрасенсов. 17-й сезон». Реалити-шоу.

**20.30** «Обмен женами». Реалити-шоу.

**22.00** КЕНО.

**22.05** «Третий лишний». Реалити-шоу [СТ].

**23.00** «Сыграй меня, если сможешь».

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.00, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 14.20, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** Мультфільм.

**8.40** «Тры таполі на Плюшчысе». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.30** «Беларуская кухня». Тушаная рыба з агароднінай.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Законны шлюб». Мастацкі фільм.

**13.20** «Дзесяць фатаграфій». Наталля Белахвосцікава.

**14.25** «Майстры і куміры». Драматург і сцэнарыст, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Аляксей Дудараў.

**15.20** «Вазьму твой боль». Мастацкі фільм [СТ].

**16.45** «Снайпер. Зброя помсты». Мастацкі фільм.

**20.00** «Архітэктура Беларусі».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Белыя росы». Мастацкі фільм [СТ].

**22.30** Гала-канцэрт закрыцця XIX Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2019». «Зорны карагод». Юбілейная канцэртная праграма Дзяржаўнага акадэмічнага ансамбля танца Беларусі.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** Мультфильмы «Маша и Медведь».

**7.45** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**8.40** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** «Здоровье».

**10.35** «Непутёвые заметки».

**10.55** Т/с **«ПОКА ЖИВУ, ЛЮБЛЮ».**

**14.30** «Леонид Филатов. «Надеюсь, я вам не наскучил…».

**15.30** Премьера. «Ледниковый период. Дети». Новый сезон.

**16.20** «Ледниковый период. Дети». Новый сезон Продолжение.

**18.25** «Лучше всех!».

**20.00** «Контуры».

**21.05** Х/ф **«КРАСОТКА».**

**22.50** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.10** «Что? Где? Когда?» Летняя серия игр.

**0.20** «Видели видео?».

## СТВ

**6.05** «Пища богов».

**7.40, 20.35** Документальный спецпроект.

**9.15** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** «Водить по-русски».

**11.20, 13.40, 16.40** Т/с **«МЕЧ 2».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**23.00** «Неделя спорта».

**23.30** СТВ представляет: 1/4 финала Международной лиги КВН. Первая игра.

**1.10** Т/с **«МЕТОД».**

## Мир

**6.00, 6.30, 7.15** Мультфильмы.

**6.15** «Миллион вопросов о природе».

**6.45** «Беларусь сегодня».

**7.45** «Культ/туризм».

**8.15** «Еще дешевле».

**8.50** «Всемирные игры разума».

**9.25** «Наше кино. История большой любви».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15** «Мировые леди».

**10.45, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«ЖИТЬ С НАЧАЛА».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**4.00** Т/с **«ОТТЕПЕЛЬ».**

## НТВ-Беларусь

**6.15** «Астропрогноз».

**6.20** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.50, 22.20** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.

**7.25** «Подозреваются все».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.40** «Однажды…».

**9.15** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.05** «Чудо техники».

**11.55** «Дачный ответ».

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.05** Т/с **«ПОБЕДИТЕЛИ».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.15** Ты не поверишь!

**22.50** Х/ф **«МУХА».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«НА РАССВЕТЕ».**

**10.30** «Смехопанорама».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Сто к одному».

**12.15** «Утренняя почта».

**13.00** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**13.55** ПРЕМЬЕРА. «Смеяться разрешается».

**15.15** «Далекие близкие» с Борисом Корчевниковым.

**16.45** «Выход в люди».

**17.50, 21.45** Х/ф **«ПО ЩУЧЬЕМУ ВЕЛЕНИЮ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**23.00** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.40** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.50** К-19. **9.30** Сфера. **11.40** Турбо. **13.30** Дети шпионов 2: Остров несбывшихся надежд. **15.35** Супер Брис. **17.25** Капитан Филлипс. **20.10** Анна Каренина. **22.40** Тайна семи сестёр. **1.00** Малавита. **3.00** Доспехи бога: В поисках сокровищ. **4.50** Игра Эндера.

### TV1000 ACTION

**10.30** Защитник. **12.20** Солт. **14.25** Крейсер. **16.55** Безбашенные. **19.00** Заложник. **21.10** Конан-варвар. **23.20** Нечто. **1.20** Наёмник. **3.10** Без компромиссов. **5.10** Боксёр.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Карп отмороженный. **8.15** Чёрная вода. **10.20** Вождь разнокожих. **12.10** Ты у меня одна. **14.05** Призрак. **16.20** Чемпионы: Быстрее. Выше. Сильнее. **18.20** Любовь под прикрытием. **20.20** Питер FM. **22.00** Неуловимые. **23.45** Майор. **1.40** Одноклассники.ru: НаCLICKай удачу. **3.25** Я любить тебя буду, можно? **4.30** Снежный ангел.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.00, 10.45, 11.45, 12.30** Т/с **«ГРИММ». 13.30** Х/ф **«РОБИН ГУД». 16.15** Х/ф **«ЦАРСТВО НЕБЕСНОЕ». 19.00** Х/ф **«ВЛАСТЕЛИН КОЛЕЦ: ВОЗВРАЩЕНИЕ КОРОЛЯ». 23.00** Х/ф **«300 СПАРТАНЦЕВ: РАСЦВЕТ ИМПЕРИИ». 1.00** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК С ЖЕЛЕЗНЫМИ КУЛАКАМИ». 3.00** Х/ф **«БЕОВУЛЬФ». 4.45** Мультфильмы «Том и Джерри: Мотор!».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ЖАРКИЙ ЛЕД». 12.00, 13.00** Т/с **«БЛИЗНЕЦЫ». 14.00, 15.00, 6.00, 7.00** Т/с **«ФАЛЬШИВОМОНЕТЧИКИ». 20.00, 21.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ». 22.00, 23.00** Т/с **«ЖИЗНЬ И ПРИКЛЮЧЕНИЯ МИШКИ ЯПОНЧИКА». 4.00, 5.00** Т/с **«ВОЛЬФ МЕССИНГ: ВИДЕВШИЙ СКВОЗЬ ВРЕМЯ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.55** Х/ф **«ПРОСТИ, ХОЧУ НА ТЕБЕ ЖЕНИТЬСЯ». 2.50** Х/ф **«ЛЮБОВЬ – ЭТО ДЛЯ ДВОИХ». 4.30** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ОТРЫВ». 6.00** Х/ф **«УБОЙНЫЙ ОГОНЕК». 7.55** Х/ф **«ОЙ, МАМОЧКИ». 9.40** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА». 11.50** Х/ф **«ИЗ НЕАПОЛЯ С ЛЮБОВЬЮ». 13.50** Х/ф **«ЛУЧШИЙ И САМЫЙ ЯРКИЙ». 15.35** Х/ф **«СПРОСИТЕ СИНДИ». 17.20** Х/ф **«КРАСОТКА НА ВСЮ ГОЛОВУ». 19.30** Х/ф **«ЖЕНИХ». 21.15** Х/ф **«ОВЕЧКА ДОЛЛИ БЫЛА ЗЛАЯ И РАНО УМЕРЛА». 23.30** Х/ф **«ГРОМОБОЙ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.15, 1.20, 2.15, 3.05** Мой капитан. **4.00, 4.55, 6.00, 7.10, 8.05, 9.05** Рокко Скьявоне. **10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 13.55, 14.55** Инквизитор. **16.00, 16.50, 17.50, 18.40, 19.35, 20.30, 21.25, 22.20** Чисто английские убийства. **23.15** Долина.

### ВТВ

**6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20, 3.30** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.10** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.35** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **10.00** Скетч-шоу «ОСТОРОЖНО: ДЕТИ!». **10.35, 12.15, 12.55, 13.55, 16.00, 17.45, 19.25, 22.55, 23.35** Прогноз погоды на неделю. **10.40** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **11.30** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ 2». **12.20, 2.10** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **13.00, 2.40** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **14.00** Т/с **«#СЕНЯФЕДЯ». 16.05** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ДЕСПЕРО». 17.50** Х/ф **«МОНСТРЫ НА КАНИКУЛАХ». 19.30** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Х/ф **«ПОСЛЕ НАШЕЙ ЭРЫ». 23.00** Реалити-шоу «ПАРЫ НА КАНАРЫ». **23.40** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **0.35** «ХОЧУ ВЕРИТЬ!» с Борисом Корчевниковым. **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.05** Футбол. Чемпионат мира. U-20. 1/4 финала. **7.55** Волейбол. Золотая Евролига. **9.30** Футбол. Квалификация к ЧЕ-2020. Беларусь – Германия. **11.20** Футбол. Квалификация к ЧЕ-2020. Дневник игрового дня. **11.50** Теннис. Ролан Гаррос. Женщины. Финал. **13.55** Игры «на вырост». **14.25** Автоспорт. Дрифтинг. Пари-матч – чемпионат Беларуси. 2-й этап. Гродно. **15.30** Теннис. Ролан Гаррос. Мужчины. Финал. **18.20** Пит-стоп. **18.50** Спорт-центр. **20.50** Итоги недели. **21.35** Футбол. Лига наций УЕФА. Финал. В перерыве – Спорт-центр.

### EUROSPORT

**0.35, 9.30, 23.00** Супербайк. Этап чемпионата мира. Херес. Суперпоул. **1.00, 4.00, 10.00** Супербайк. Этап чемпионата мира. Херес. Первая гонка. **1.45, 10.45, 19.30, 19.45** WATTS. **2.00, 6.00, 19.00** «Гейм, Шетт и Матс». **2.30, 6.30, 14.30, 20.00** Теннис. «Ролан Гаррос». Женщины. Финал. **4.45, 8.00, 11.05** Теннис. «Ролан Гаррос». Мужчины. Пары. Финал. **12.25** Теннис. «Ролан Гаррос». Женщины. Пары. Финал. **15.45** «Гейм, Шетт и Матс»-экстра. **16.00, 21.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Мужчины. Финал. **23.30** Суперспорт. Этап чемпионата мира. Херес.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 17.35** Трасса А2. **7.35, 9.45, 12.50, 15.35, 19.10, 23.55, 1.30, 3.50** Итоговые новости. **7.50** Автодрайв. **8.20** Возвращение легенды. **10.00** Вечер с Пикуленко. **10.40** Тест на «Драйве». **11.05, 19.30, 22.40** Металлоломщики. **11.55, 23.25, 4.05** Автодело. **12.20, 20.45, 0.10, 4.30** Поездка выходного дня. **13.05** Хорошо забытое. **13.20, 16.20, 0.35** Байки про байки. **14.35, 5.00** Автомобильные музеи мира. **15.05, 21.40, 5.30** Гараж для двоих. **15.50** Дома на колесах. **16.05, 1.40** Все включено. **20.15** Авто Европа. **21.15** Народный тест драйв. **22.15** Самообслуживание. **22.30, 2.55** Обновление. **1.15** Вторичка. **1.55** 9 злобных водителей. **2.25** Сделаем как надо. **3.05** Советы юриста. **3.45** Наезд!

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.45, 8.35** Приключения на рыбалке. **9.25, 10.10, 11.00** Чудовищный карп. **11.55, 12.35, 13.25, 14.05, 14.55, 15.35** Лесные люди. **16.20, 17.10** Переделка старья. **18.00, 18.50** Тренировка по древним традициям. **19.40, 20.30** Надсмотрщик. **21.20, 22.05** Австралийские золотоискатели. **22.50, 23.35** Дикая Монтана. **0.25, 1.20, 2.15** Короли разрушения. **3.15, 4.05** Строительство гигантов. **5.00, 5.30** Полигон.

### HISTORY

**6.30, 7.10** Невероятные изобретения. **7.35** Американские принцессы на миллион долларов. **8.00, 9.05** Вулканическая одиссея. **10.10, 10.40, 11.15, 11.45, 12.15, 12.45, 13.15** Родовые проклятья. **13.45, 14.20, 14.55** Тайны Парижа. **15.30** Смертоносный интеллект. **16.30** Преступность военного времени. **17.40, 18.40** Шпионаж за монархами. **19.40** Вторая мировая в цвете. **20.50** Тайны египетских пирамид. **22.00** 5000 лет истории Нила. **22.45** Загадки Египта. **0.00, 0.55** Лучшие убийцы древних времён. **1.50** Тайная война. **2.45** Заговор. **3.35** Музейные тайны. **4.35, 5.25** Запретная история.

### NATURE

**6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00, 8.30** Соединенные Штаты Животных. **9.00, 1.00** Вулканы: разрушение и сотворение. **9.50, 23.55** Вулканы: двойное разрушение. **10.55, 22.50** Жизнь на вулкане. **12.00** Дикая Швейцария. **12.55, 13.50, 14.45** Спасение Сирги. **15.40** Встречи старых друзей. **16.30, 17.25, 18.20** Огромные звери: последние из великанов. **19.15** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **20.10** Эпический Йеллоустоун. **20.55** Царство муссонов. **21.50** Дикая Бразилия. **1.50, 2.40** Жуткие, настоящие и странные. **3.30** Хищные питомцы. **4.20, 5.10** Суперветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.25** Увлекательная наука. **6.50, 5.35** Научные глупости. **7.15, 8.00** Панорама 360. **8.50, 12.40** Авто-SOS. **9.40, 10.25** Короли шахт. **11.10, 11.55** Инстинкт выживания. **13.30, 14.10** Дикий тунец: Север против Юга. **14.55, 15.45** Международный аэропорт Дубай. **16.30** «Фри-соло». **18.10, 19.00, 19.45, 20.35, 21.25, 22.15** Враждебная планета. **23.05** Удивительная планета: мир, созданный лавой. **23.50, 0.40** Неизвестная планета земля. **1.25, 2.15** Осушить океан. **3.05, 3.55** Расследование авиакатастроф. **4.45** Инженерные идеи.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.50** Рождение клинка. **6.25, 23.20** Рыбалка 360. **6.55, 12.10, 18.10, 0.15** Смертельный улов. **7.45, 12.55, 19.00, 1.05** Две на одного. Оружие. **8.00, 19.45** Поплавочный практикум. **8.35, 20.20** По рекам России. **9.05, 15.45, 20.45, 3.20** Рыбалка сегодня XL. **9.30, 16.10, 3.45** Спиннинг на камских просторах. **10.05, 21.45** Карпфишинг. **10.35, 22.15** Рыболовы. **11.10, 17.40, 1.15, 5.05** Трофеи. **11.35, 19.15, 1.45, 5.30** Водный мир. **13.15** Какая дичь! **13.30** Камера, мотор… рыба! **14.00** Беларусь: в поисках хорошего клева. **14.25** Рецепты старого Тифлиса. **14.40, 2.25** Тропа рыбака. **15.10** На рыбалку с охотой. **16.45, 4.15** Рыбалка сегодня. **17.00, 4.25** Охота: собачья работа. **17.25, 4.50** Кодекс охотника. **21.15** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **23.45** Рыбалка в России. **2.15** Дело вкуса. **2.50** Поймай и сними.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.50, 13.55, 17.55, 21.45, 2.10** Дома на деревьях (сезон 2). **6.50, 10.35, 22.30** Готовим на Майорке. **7.05, 10.50, 14.55, 19.00, 22.45, 3.05** Городские дачники. **7.35, 11.20, 15.25, 19.25, 23.15, 3.35** У мангала. **8.05, 15.50, 19.55, 23.45, 4.00** Дачный эксклюзив. **8.35, 12.20, 16.20, 20.25, 0.10, 4.30** Домоводство. **8.50, 12.35, 16.40, 20.40, 0.30, 4.40** Дачная энциклопедия. **9.20, 13.05, 17.10, 21.15, 1.00, 5.10** Лавки чудес. **11.50** Домик в Америке. **13.35, 17.40, 1.55** Свечной заводик. **14.35, 18.40, 2.50** Детская мастерская. **1.30** Зеленая аптека. **5.45** Травовед.

# Знакі вышыні – каштоўныя геадэзічныя маркеры



Мост каля Смаргоні.





Ашмянскі касцёл.





Касцёл у Жодзішках.




Знак вышыні.



Воданапорная вежа станцыі Залессе.

**Дапытлівы наведнік архітэктурных помнікаў звяртае ўвагу на любыя дробязі, якія знаходзяцца на даследаваных пабудовах. Яны з'яўляюцца не толькі каштоўнымі памяткамі мінулага, але таксама нагадваюць аб падзеі, з нагоды якой былі ўсталяваныя.**

СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ
АСТРАВЕЦ

Доўгі час не мог зразумець прызначэнне прымацаваных да падмуркаў невялікіх металічных знакаў. Асабліва цікавілі сярод іх знакі з надпісам «Znak wysokosci. M.R.P.» і выявай арла пасярэдзіне. Раскрыць таямніцу дапамаглі краязнаўцы з Брэсцкага рэгіёна, якія падзяліліся каштоўнай інфармацыяй па дадзенай тэматыцы і прапанавалі прыняць удзел у даследаванні аналагічных аб'ектаў на тэрыторыі былой Віленшчыны.

У выніку захапляльнага геапошуку, які мае навамодную назву бенчмаркінг, адкрылася яшчэ адна малавядомая старонка нашай гісторыі.

### Металічныя маркеры вышыні

Для дакладнага вымярэння вышыні пунктаў зямной паверхні адносна ўзроўню мора служыць нівелірная сетка. З яе дапамогай выконваюць розныя інжынерныя і будаўнічыя работы. Яна выкарыстоўваецца для тапаграфічных здымкаў мясцовасці. Складаецца такая сетка з уцэментаваных у сцены будынкаў металічных маркераў вышыні ці геадэзічных сценных рэпераў.

Іх можна заўважыць на цокальнай частцы Ашмянскага і Гальшанскага касцёлаў, на контрфорсе пры ўваходзе ў Сольскі касцёл, на мемарыяльным помніку нямецкага вайсковага могільніка ў Дзясятніках.

Да нядаўняга часу захоўваўся рарытэтны геадэзічны знак на падмурку Жупранскага касцёла, але пры апошнім наведванні святыні не быў заўважаны. Вонкавая частка рэпера ўяўляе сабой металічны дыск дыяметрам у сем сантыметраў з паўкруглым выступам зверху, на які мацуюць нівелірную рэйку пры правядзенні вымяральных работ. На паверхні балта, такую назву таксама мае гэты знак у польскамоўных крыніцах, размешчаны тагачасны дзяржаўны гербавы арол і надпіс, пераклад і расшыфроўка скарачэнняў якога азначаюць: «Знак вышыні. Міністэрства грамадскіх работ».

**Уладзімір ПРЫХАЧ,**
**Смаргонь.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

*Працяг будзе.*

● КАЛЯНДАР

31 ЧЭРВЕНЯ

**1800.** У Варшаве памёр **Міхал Казімір Агінскі**, дзяржаўны дзеяч, паэт, мецэнат Вялікага Княства Літоўскага, кампазітар. Нарадзіўся ў 1728 г. або 1730 годзе. Ён выдатна выконваў свае творы на розных інструментах. Яго нават жартам называлі «гетман-кларнет», а некаторыя даследчыкі яго жыцця і дзейнасці сцвярджаюць, што менавіта ён вынайшаў падножку да арфы.

**1979.** 40 гадоў назад у Амстэрдаме (Нью-Ёрк, ЗША) памёр **Францішак Чарняўскі**, каталіцкі святар, рэлігійна-асветны публіцыст, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Францыі, Бельгіі і ЗША. Нарадзіўся 3 лістапада 1893 года ў Чухнах Ашмянскага павета.

1 ЧЭРВЕНЯ

**Міжнародны дзень абароны дзяцей.**

2 ЧЭРВЕНЯ

**1806.** Нарадзіўся **Аляксандр Валадковіч** (каля мястэчка Радашкавічы), адзін з кіраўнікоў паўстання 1830-1831 гг.

3 ЧЭРВЕНЯ

**1786.** Нарадзіўся **Канстанцін Тызенгаўз** (мяст. Жалудок, цяпер Шчучынскі раён), асветнік, прыродазнаўца.

**1863.** Ля вёскі Расолішкі (цяпер Іўеўскі раён) адбыўся бой паміж паўстанцкім атрадам **Зыгмунта Мінейкі** і расійскім войскам.

4 ЧЭРВЕНЯ

**1872.** Памёр **Станіслаў Манюшка**, кампазітар, дырыжор, педагог, класік польскай і беларускай оперы, вакальнай лірыкі.

**1952.** У Чыкага (ЗША) памёр **Язэп Варонка**, палітычны дзеяч, журналіст, публіцыст, дзеяч эміграцыі ў ЗША, першы прэм'ер-міністр Беларускай Народнай Рэспублікі (1918 г.).

**1986.** У Маскве памерла **Канстанцыя Буйло** (у замужжы Калечыц), паэтэса.

5 ЧЭРВЕНЯ

**Міжнародны дзень аховы навакольнага асяроддзя**

**1911.** Нарадзіўся **Адам Дасюкевіч** (в. Копцевічы, цяпер Смаргонскі раён), грамадска-культурны дзеяч, журналіст.

6 ЧЭРВЕНЯ

**1841.** Нарадзілася **Эліза Ажэшка**, польская пісьменніца, удзельніца паўстання 1863-1864 гг.

**1962.** Заснаванае Беларускае таварыства аховы прыроды.

**1989.** 30 гадоў назад у Беларусі ўпершыню ўрачыста адсвяткавалі Купалле, якое ў гады савецкай улады не святкавалася.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**


Фота забяспечанае Аленай ГРЫДЗЮШКАЙ.

# Сям'я стварае атмасферу, дзяржава – умовы

## Якой дапамогі ад дзяржавы чакаюць бацькі для дзяцей

Тэму ілюструе сям'я Грыдзюшкаў з Маладзечна.

**Што маюць права бацькі чакаць ад дзяржавы? Такое пытанне абмеркавалі на круглым стале, што ладзілі ў рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты» 23 мая.**

> – Сям'я павінна ствараць цёплую надзейную атрмасферу. Дзяржава стварае ўмовы для аховы здароўя, адукацыі.
>
> – Кацярына Пупа

У абмеркаванні ўдзельнічалі юрыст Валожынскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання **Кацярына Пупа**, спецыяліст па сацыяльнай рабоце з гэтай жа ўстановы **Ніна Радына**, а таксама мамы-маладзечанкі **Марыя Бераснева** і **Марына Броўка**. Мадэратарам размовы была загадчык аддзела інфармацыі журналіст **Зоя Хруцкая**.

На пачатку размовы спецыялісты Валожынскага тэрытарыяльнага цэнтра распавялі пра сваю працу з сям'ямі. Ніна Радына адзначыла, што яе праца часта накіраваная на тое, каб выцягнуць людзей з дома.

– Часта бацькі, якія гадуюць дзяцей з інваліднасцю, зачыняюцца ў сваёй кватэры, не хочуць зносін, не жадаюць паказваць сваё дзіця свету. А зносіны, падтрымка і дапамога такім бацькам патрэбныя. Значыць, трэба сабраць іх разам. Што мы і зрабілі. На круглы стол у цэнтры сабралі мам, якія гадуюць дзяцей з аўтызмам, запрасілі спецыяліста з Мінска.

Па словах Ніны Радыны, мамы пасля такой сустрэчы ажылі.

У хуткім часе зладзілі іншае мерапрыемства, дзе спецыяліст вучыў дзяцей з аўтызмам размаўляць карткамі. Таксама дамовіліся з фізкультурна-аздараўленчым комплексам і басейнам, каб дзеці змаглі там займацца.

Кацярына Пупа як юрыст працуе са шматдзетнымі сем'ямі, бацькамі, што гадуюць дзяцей з інваліднасцю. Кажа, людзі звяртаюцца да яе па кансультацыі.

**Зоя Хруцкая:**

**– За што адказныя бацькі, а калі спадзявацца на дзяржаву?**

**Ніна Радына:**

– Чалавек звычайна плануе, калі нарадзіць дзіця.

> **Значыць, перш за ўсё, трэба разлічваць на ўласныя матэрыяльныя і маральныя магчымасці. І ўжо потым – на дзяржаву.**

Здараецца, нехта нарадзіць – і сам змагаецца, а нехта нават не працуе, а чакае чагосьці ад дзяржавы.

Ёсць сем'і, якія пачалі нараджаць, даведаўшыся пра сямейны капітал. Але была на Валожыншчыне і такая сям'я, што пра капітал не ведала. Ёсць сем'і, якія крыўдзяцца на работнікаў нашай службы, быццам мы нечага не расказалі ім. Але, ходзячы па сем'ях, мы шмат расказваем пра льготы і матэрыяльныя дапамогі. Іншы раз думаем, што трэба ўжо такую інфармацыю пад подпіс даваць.

**Зоя Хруцкая:**

**– На што могуць разлічваць бацькі для сваіх дзяцей ад дзяржавы?**

**Кацярына Пупа:**

– На дапамогу да трох гадоў. На адзінаразовую дапамогу пры нараджэнні. 2240 рублёў 20 капеек – за першае дзіця, 3136 рублёў 28 капеек – за другое і наступных.

Шматдзетныя сем'і маюць зніжкі на аплату за карыстанне падручнікамі, дзяцей бясплатна кормяць у школе, таксама бацькі не аплачваюць музычную і мастацкую школы.

**Ніна Радына:**

– Але ёсць і такія бацькі, якім я мушу тэлефанаваць і нагадваць, што ім трэба сабраць дакументы, каб атрымаць дапамогу. Хоць, здараецца, такой дапамогай мы памнажаем дармаедства.

**Зоя Хруцкая:**

**– Калі б не дапамагаць такім не зусім адказным сем'ям, ці сталі б яны самастойнымі?**

**Кацярына Пупа:**

– Такога эксперыменту мы не можам правесці.

**Ніна Радына:**

– Ёсць сем'і, якім колькі ні дапамагай, усё нібы ў бяздонную бочку.

**Марыя Бераснева:**

– Калі дапамагаць увесь час, гэта не пойдзе на карысць. Бацькі прывыкнуць чакаць дапамогі ад дзяржавы і не будуць разлічваць на сябе. Ведаю такія сем'і. Ім колькі ні давай – усё бессэнсоўна.

**Ніна Радына:**

– Вось таму сям'ям, якія стаяць у сацыяльна-небяспечным становішчы, мы стараемся не даваць наяўныя грошы. Наш спецыяліст з бацькамі і з грашыма ідзе ў краму і купляе прадукты і адзенне. Так мы дакладна ведаем, што ў сям'і будуць крупы і макарона.

**Марыя Бераснева**:

– Так сапраўды лепш. Многія людзі не навучаныя правільна траціць грошы. А гэтаму трэба вучыць са школы.

Напрыклад, у Амерыцы такая практыка ёсць. Там вучаць дзяцей, як размяркоўваць грошы, як іх эканоміць. Але без дапамогі дзяржавы не абысціся.

**Ніна Радына:**

– Так, дапамога павінна быць. Балюча глядзець ролікі, дзе ў людзей просяць грошы на лячэнне дзяцей. Не людзі павінны збіраць гэтыя грошы, а дзяржава.

**Зоя Хруцкая:**

**– Як увогуле адбываюцца такія зборы? Ці не зарабляюць на чужой бядзе махляры?**

**Ніна Радына:**

– Наша сям'я якраз сутыкнулася з такой праблемай. У сваякоў – дзяўчынка са спінна-мышачнай атрафіяй. Каб яе вылечыць, адразу трэба 750 тысяч еўра, а пасля па 450 тысяч еўра некалькі разоў. Мы размяшчалі аб'явы ў інтэрнэце, расклейвалі ў Мінску. А пасля знаёмыя сказалі, што бачылі жанчыну, якая на вуліцах Мінска прасіла грошай з нашай аб'явай.

**Зоя Хруцкая:**

**– А якую дапамогу ад дзяржавы хацелі б вы, Марына?**

**Марына Броўка:**

– Толькі жыллё. Больш за 25 год жывём у





Марыя Бераснева.



Марына Броўка.



Кацярына Пупа.



Ніна Радына.



Зоя Хруцкая.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**– Бацькам варта самім аб'ядноўвацца, дапамагаць адзін аднаму, адказваць за тое, што адбываецца з дзецьмі. А ад дзяржавы наша сям'я хацела б толькі ўласнае жыллё.**

**– Марына Броўка.**

інтэрнаце ў блоку. У адным пакоі – я з дачкой з інваліднасцю, у другім – сын з дзіцем. А плацім 150 рублёў камунальных штомесяц. Больш чым за трохпакаёвую кватэру. Некалькі год таму пачалі будавацца, заплацілі нейкія ўнёскі, але будоўлю замарозілі і грошы вярнулі.

**Дачка ходзіць у школу маладых інвалідаў пры Цэнтры карэкцыйнага навучання і развіцця. Вельмі рада, што ёсць такая магчымасць і ёй не трэба сядзець адной дома, пакуль я на працы.**

Жыллё – гэта адзінае, чаго не хапае. А так, рукі-ногі ёсць – грошы заробім. У чарзе на жыллё стаіць і сын, і дачка. Аднак, калі мы пабудуемся, невядома.

**Ніна Радына:**

– З людзьмі з інваліднасцю ў Валожыне таксама працуюць. Наш спецыяліст ездзіў на навучанне за мяжу, вучыўся, як абыходзіцца з ляжачымі хворымі. Пасля ў Валожыне вучыў усіх, хто даглядае такіх хворых.

**Зоя Хруцкая:**

**– Здараюцца выпадкі, калі дзяржава бярэ на сябе ролю бацькоў. Як у такім выпадку не забыцца пра інтарэсы дзіцяці?**

**Кацярына Пупа:**

– Гэтае пытанне больш да аддзела адукацыі. Але мы ведаем, што, калі сям'ю ставяць у сацыяльна-небяспечнае становішча, складаюць план. Наша задача – пракантраляваць, каб бацькі своечасова збіралі патрэбныя дакументы, прыязджалі па дапамогу.

Калі дзяцей забіраюць у бацькоў, звычайна ў гэтым плане прапісваюць, што дарослыя павінны закадзіравацца, уладкавацца на працу, зрабіць рамонт.

Часам ёсць нейкая гуманітарная дапамога такім сем'ям. Калі ж дапамогі няма, а дапамагчы трэба, збіраем у сваіх спецыялістаў. Хто закатак прынясе, хто адзенне.

**Ніна Радына:**

– Прыемна, што на Валожыншчыне такіх сямей становіцца менш. Цешымся, калі бацькі, якія раней пілі і не глядзелі дзяцей, становяцца адказнымі.

Калі ў сям'ях ёсць такія станоўчыя змены, яны заўсёды чакаюць нашых спецыялістаў. Паказваюць, напрыклад, што набылі новую мэблю або адрамантавалі кухню.

**Зоя Хруцкая:**

**– У многіх сферах дзейнасці нашага жыцця трэба здаваць экзамены. Каб стаць кіроўцам, каб паступіць у ВНУ. Каб стаць бацькамі, экзаменаў не трэба. Як жа вызначыць, што ў нас атрымалася стаць добрымі бацькамі?**

**Марыя Бераснева:**

**– Дзяцей трэба рыхтаваць быць добрымі бацькамі яшчэ са школы. Больш увагі надаваць выхаванню маральнасці. І ўсё ж асновы выхавання – ад сям'і. Школа – гэта, перш за ўсё, адукацыя.**

**Ніна Радына:**

– У нашым вясковым дзяцінстве выхаванне было простым. Прыйшоў са школы – нанасі дроў, папрацуй у гародзе. Як сталі студэнтамі, бацькі давалі нам на вучобу сала ды качан кіслай капусты. Цяпер жа мы стараемся для нашых дзетак больш: і ўрокі правяраем, і ссабойкі збіраем у кантэйнеры, каб толькі разагрэць. Можа, гэтым і псуём іх.

**Зоя Хруцкая:**

**– А як пазнаць, што бацькі добра выхавалі дзіця?**

**Марына Броўка:**

– Гэта бачна па адносінах дзіцяці да бацькоў і да іншых людзей.

**Кацярына Пупа:**

– Так, гэта бачна па дзецях, па тым, як яны паводзяць сябе. Асабліва, калі падрастаюць. І паступленне ў ВНУ далёка не заўсёды сведчыць пра добрае выхаванне.

**Марыя Бераснева:**

– А найлепшы паказчык – тое, што іншыя людзі гавораць пра тваіх дзяцей.

**Зоя Хруцкая:**

**– Давайце падвядзём вынікі размовы. Што мы, як бацькі, хацелі б ад дзяржавы? А што павінны рабіць самі?**

**Марына Броўка:**

– Бацькам варта самім аб'ядноўвацца, дапамагаць адзін аднаму, адказваць за тое, што адбываецца з дзецьмі. А ад дзяржавы наша сям'я хацела б толькі ўласнае жыллё.

**Марыя Бераснева:**

– Бацькі павінны клапаціцца пра фізічнае і псіхічнае здароўе, разумовыя здольнасці. А дзяржава стварае ўмовы для навучання і развіцця. Аднак у экстранных выпадках клопат дзяржавы павінны быць.

**Кацярына Пупа:**

– Сям'я павінна ствараць цёплую надзейную атмасферу. Дзяржава стварае ўмовы для аховы здароўя, адукацыі.

**Ніна Радына:**

– Канешне, у першую чаргу – сям'я. Калі ёсць праблемы, падключаецца дзяржава. І яна, дарэчы, робіць нямала. Толькі адно тое, што да трох гадоў мама можа быць з дзіцем – вельмі важна. У іншых краінах дэкрэтны адпачынак у разы меншы. Таксама добра, што ёсць дапамогі і шматдзетным, і тым, хто выхоўвае дзяцей з інваліднасцю.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

*Апытанне на гэтую тэму чытайце на старонцы 24.*

# Абдымаўся з пінгвінамі і бачыў, як

## Жыхар Маладзечаншчыны – пра экспедыцыю ў Антарктыду

**На лецішчы ў 82-гадовага Мікалая Пракапенкі – дагледжаны сад і агарод. А ў доме на падстаўцы – яйка сапраўднага пінгвіна.**


Фота забяспечанае Мікалаем ПРАКАПЕНКАМ.

З маленькімі пінгвінамі можна было абдымацца.

МАЛАДЗЕЧНА

Гэты своеасаблівы сувенір мой субяседнік прывёз з Антарктыды. У сярэдзіне 1960-х ён, малады хлопец з Украіны, трапіў у 11-ю антарктычную экспедыцыю. Але перад гэтым было яшчэ шмат падзей і падарожжаў.

### Як у краі з урадлівымі землямі ледзь не паміралі з голаду

Успаміны дзяцінства для Мікалая Пракапенкі звязаныя з сялом Леткаўка, што ў Вінніцкай вобласці ва Украіне. Але ўспаміны тыя бязрадасныя: падчас Другой сусветнай Мікалай разам з братам засталіся адны: маці памерла ад малярыі недзе ў 1943 годзе, а бацька быў на фронце. Памерці хлопцам не далі родныя цёткі – матчыны сёстры.

Маму мой субяседнік уяўляе вельмі цьмяна:

– Памятаю толькі фотаздымак, які быў у нашых знаёмых у сяле. На ім мама сядзіць у белай кофтачцы і трымае мяне на руках.

У 1946 годзе бацька вярнуўся з вайны. Яму пашанцавала: не быў нават паранены. Стварае новую сям'ю. У хлопчыкаў з'яўляецца мачаха.

Сяло Леткаўка, па словах Мікалая Аляксеевіча, было вельмі прыдатным для земляробства. Паўсюль – чарназём. Але сем'і галадалі і спадзяваліся толькі на свой агарод. Калгас плаціў працаднямі, а ў канцы года даваў крыху збожжа. Адзінае чаго хапала – цукру. У гэтай мясцовасці сеялі шмат цукровых буракоў. Некалькі вараных бульбін у лупінах – такая была ссабойка бацькі, што працаваў кіроўцам.

> Часам ноччу заснуць не маглі ад таго, што есці хочацца.

### А паспрабуй скажы што-небудзь, адразу – на Салаўкі

Між тым у сям'і пайшлі яшчэ дзеці. Пасля родаў жанчыне адпачыць асаблівa не давалі: пройдзе пару тыдняў – і ў поле з матычкай. Усім калгас даводзіў нормы. А паспрабуй скажы што-небудзь – адразу забяруць на Салаўкі. І пакуль мачаха была ў полі, Мікалай заставаўся за нянькy.

Калі ж у калгасе жалі збожжа, хапала працы і дзецям. Усе бралі саматканыя торбы і ішлі збіраць каласы.

Крыху багацейшых вяскоўцаў раскулачылі. Па першым часе сям'я Пракапенкаў нават жыла ў хаце адной раскулачанай сям'і. Аднак бацьку было вельмі няўручна такое пражыванне, таму сям'я неяк сабрала грошай і набыла сваю хату.

У восьмы клас пасля заканчэння сямігодкі ў 1952 годзе Мікалая бацька не пусціў. Трэба было хадзіць у іншую мясцовасць, наймаць там кватэру. Такога дазволіць сабе сям'я не магла. Хлопец дапамагаў па гаспадарцы. Хадзіў за мачаху працаваць у садаводчай брыгадзе.

– Побач з нашым агародам быў вялікі, гектараў на 60, калгасны сад, – прыгадвае мужчына. – Там раслі чарэшні і шаўковіца.

У галодныя дні сад вельмі выручаў. Плады з яго дзеці пачыналі цягаць яшчэ зялёнымі.

У 16 год Мікалай пачаў працаваць са сваёй першай тэхнікай. У сяле, дзе яшчэ не было электрычнасці, працавала маленькая дызельная станцыя. Тут была піларама, рэзалі сечку, драбілі кукурузу. Гэта станцыя і стала першай тэхнікай Мікалая Пракапенкі. Пасля на працягу ўсяго жыцця мужчына будзе працаваць з тэхнікай.

Праз год па аб'яве падаўся ў Данецк (тады Сталіна) на аднаўленне шахтаў. Спачатку асноўнымі прыладамі працы былі рыдлёўка і кірка, пасля навучыўся працаваць на маленькім кране.

Потым нейкі час працаваў на будоўлях, але заўсёды цягнула да тэхнікі. Нарэшце ў вучылішчы атрымаў спецыяльнасць кіроўцы. Тых хлопцаў, якія паступалі без накіравання, пасля вучылішча накіроўвалі на цаліну.

### Цалінны досвед

Так у 1956 годзе мой герой трапіў у Казахстан.

– Прыехалі ў Паўладар, апранутыя лёгка. А там нас ужо чакала машына з цёплай вопраткай, бо надвор'е было вельмі халоднае, – прыгадвае Мікалай Аляксеевіч.

Працаваць трапіў трактарыстам у пасёлак Харкаўка. Працы шмат. Вясной нават жылі ў вагончыках у стэпе.

– Працаваць на трактары было складана: адчыніш дзверы – камары і пыл, зачыніш – гарачыня.

Зімой праца была таксама: перавозілі нарыхтаваныя стагі сена з паплавоў ля Іртыша. Калі ў дарозе заспее завіруха, было адзінае правіла для ўсіх кіроўцаў – стаяць на адным месцы. Бо калі пачнеш шукаць дарогу ў стэпе падчас завірухі, абавязкова заблукаеш.

– Неяк бліжэй да ночы завіруха заспела ў стэпе і мяне. Сеў у трактар і стаў чакаць світанку. Калі развіднела, гляджу – зусім побач замеценыя снегам саманкі – хаты мясцовых жыхароў з гліны і саломы. Калі пачаў ездзіць у завірусе, мог бы на хаты напароцца, – распавядае Мікалай Аляксеевіч.

Тут, у Казахстане, было шмат збожжа. Яго не паспявалі вывозіць. Шмат псавалася пад адкрытым небам.

За працу Мікалаю Пракапенку далі грошы і дзве з паловай тоны пшаніцы. А тут – павестка ў войска. Што рабіць са збожжам? 500 кілаграмаў пераслаў бацьку ва Украіну, бо больш нельга было. А дзве тысячы прадаў за капейкі мясцовым жыхарам.

### У войску знайшоў жонку і трапіў у Антарктыду

Служба ў войску на Выбаргскай шашы каля Ленінграда ўнесла істотныя змены ў жыццё майго субяседніка.

На трэцім годзе службы ён ажаніўся. Жонка, **Зінаіда**, была родам з вёскі Кавалі, што на Мядзельшчыне. У Расію яе забраў брат, які звыштэрмінова служыў у вайсковай часці.

Штогод з навукова-даследчага інстытута Арктыкі і Антарктыкі набіралі добраахвотнікаў-кіроўцаў паўдзельнічаць у экспедыцыі ў Антарктыду.

– Мне захацелася паўдзельнічаць. Было цікава пабываць там. Да таго ж абяцалі нядрэнныя грошы, – кажа Мікалай Пракапенка. – Прайшоў медкамісію. А пасля

# кіты пускаюць фантаны



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Яйка пінгвіна.



Фота забяспечана Мікалаем ПРАКАПЕНКАМ.

Мікалай Пракапенка ў кампаніі пінгвінаў.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Сёння Мікалай Пракапенка займаецца садам і агародам на лецішчы.




Фота забяспечана Мікалаем ПРАКАПЕНКАМ.

Ля абеліска кіроўцы Івана Хмары.

дакументы накіравалі ў Маскву на праверку. Бо так проста за мяжу было ж не выехаць тады.

Так мой субяседнік трапіў у склад 11-й савецкай антарктычнай экспедыцыі. Тут ён працаваў кіроўцам для забяспячэння антарктычнай станцыі «Усход». Быў там крыху больш за год. Жонка чакала яго дома.

## Што я даведалася ад свайго субяседніка пра Антарктыду

• Ад 1956 года трактарысты ў Антарктыдзе працавалі ў трактарах без кабін. Былі на тое дзве прычыны. Першая – трагічная. У 1956 годзе кіроўца **Іван Хмара** ехаў у трактары з кабінай, праваліўся пад лёд і загінуў. Каб трактар быў без кабіны, магчыма, у яго б атрымалася выскачыць. Другая – практычная. Трактар без кабіны было лягчэй адкапаць ад снегу.

• Пасля завірухі домікі для ўдзельнікаў экспедыцыі, напрыклад, у пасёлку Мірны, снег заносіў разам з дахамі. Спачатку штораз спрабавалі расчышчаць. А потым рабілі тамбуры – вузкія калідоры ў снезе, што вялі наверх.

• Зімой маразы 70-80 градусаў. Лыжы прымярзаюць да снегу.

• Паліва для забеспячэння антарктычнай станцыі кіроўцы вазілі на першай перадачы на адлегласць 1 400 кіламетраў. Дарога займала больш за месяц.

• Пінгвіны не ўцякалі ад людзей. Часта ішлі насустрач. Ад гукаў, што ўтваралі тысячы гэтых птушак, дрыжала паветра.

• Вялікія каралеўскія пінгвіны жывуць на айсбергах, маленькія – адэлі – на астравах.

• Назіраць, як кіты плывуць па моры і пускаюць фантанчыкі, тут звычайная з'ява.

• Калі ў Саюзе людзі атрымлівалі па 50 рублёў заробку, удзельнікам экспедыцыі плацілі трыста.

• Летам у Антарктыдзе – невялікі плюс. Снег, вядома, не растае. А вось калі кінуць на яго нейкі чорны прадмет, адразу ў снезе атрымаецца ямка.

**• Без акуляраў падчас сонечнага надвор'я – немагчыма. Па першым часе нават марляй прыкрывалі твар, каб не было сонечных апёкаў.**

• Кармілі ўдзельнікаў экспедыцыі вельмі добра. Мяса прывозілі тушамі. Сок – у выглядзе канцэнтратаў.

• Адзенне мылі вельмі рэдка. Антарктыда – край, дзе немагчыма вымазацца.

## Антарктыда – на здымках, на карце, ва ўспамінах

У Маладзечне мой субяседнік ад 1967 года, хутка пасля свайго прыезду з Антарктыды. З Расіі вырашылі пераехаць у Беларусь на радзіму жонкі.

Пабудавалі кааператыўную кватэру, набылі запарожац. Грошы, атрыманыя за экспедыцыю, вельмі спатрэбіліся маладой сям'і. Тут Мікалай Аляксеевіч усё жыццё адпрацаваў кіроўцам. Нездарма ж з дзяцінства любіў тэхніку. Ён і сёння кіруе ўласным аўтамабілем, «Шкодай», які жартам называе сваім аднагодкам.

А пра паўночную вандроўку 52-гадовай даўніны майму субяседніку нагадваюць шматлікія фотаздымкі, багатая бібліятэка кніг пра паўночныя падарожжы і карта Антарктыды на сцяне.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Віляйчанін заняў другое месца на чэмпіянаце лесарубаў

**ВІЛЕЙКА**

**Валеры Дуровіч**, ляснік Вілейскага доследна-вытворчага лясніцтва, у складзе зборнай вальшчыкаў Мінлясгаса прадстаўляў Беларусь на Міжнародным чэмпіянаце лесарубаў у Польшчы.

Каманда мінлясгаса набрала найбольш ачкоў і заняла першае месца.

А прадстаўнік Вілейшчыны Валеры Дуровіч у асабовым заліку атрымаў другое месца.

На першым месцы – прадстаўнік Польшчы. Ён абагнаў вілейчука на два ачкі.

Як распавялі ў прэсслужбе Мінлясгаса, у спаборніцтвах удзельнічала больш за 30 лесарубаў з сямі краін.

Для Валерыя Дуровіча гэта далёка не першыя спаборніцтвы і не першая перамога. Ён паспяхова ўдзельнічаў у аналагічных конкурсах у Нарвегіі, Латвіі, Германіі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## Першы матч з новым трэнерам стаў правальны

**СМАРГОНЬ**

Матч сёмага тура першай лігі 25 мая закончыўся сумным вынікам для мядзведзяў.

Смаргонцы гулялі ў гасцях з наваполацкім «Нафтанам». Сустрэча закончылася з лікам 5:0 на карысць гаспадароў.

У турнірным радку смаргонская каманда займае апошні, 15-ы, радок. У «Нафтана» – сёмы.

У маі новым трэнерам каманды прызначылі **Паўла Раднянка**.

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## Маладзечна разбіла Бабруйск

**МАЛАДЗЕЧНА**

Моцную перамогу прывезлі маладзечанцы з выязнога матча ў Бабруйск 25 мая.

Гульня з камандай «Белшына-2» скончылася з лікам 0:5 на карысць гасцей.

У бабруйскія вароты галы забілі **Сямён Хаткевіч**, **Мікіта Дудо**, **Сяргей Галюк**. **Уладзіслаў Кнацько-Штэрк** здзейсніў галявы дубль.

Па выніках розыгрышу шостага тура маладзечанцы займаюць другі радок турнірнай табліцы, прапускаючы толькі дзяржынскі «Арсенал».

## Ашмянцы ўпэўнена абыгралі «Івацэвічы»

**АШМЯНЫ**

«Ашмяны-БДУФК» прымалі ФК «Івацэвічы» на дамашнім стадыёне 25 мая.

Гаспадары перамаглі гасцей з лікам 5:2. Забіць галы ўдалося **Янушу Ладуцьку**, **Аляксею Маліноўскаму** і **Арсенію Канцадайлаву**. **Яўген Пракопчык** здзейсніў галявы дубль.

Па выніках тура «Ашмяны-БДУФК» займаюць трэці радок турнірнай табліцы.

## Чысцінцы абыгралі «Вікторыю»

**МАЛАДЗЕЧНА**

Каманда з Чысці Маладзечанскага раёна «Андэрдог» прымала дома «Вікторыю» з Мар'інай Горкі 25 мая.

Матч закончыўся з лікам 4:1 на карысць гаспадароў. З маладзечанскага боку адзін мяч забіў **Павел Чэхаў**. Хэтрык змог забіць **Павел Богуш**.

«Андэрдог» займае чацверты радок турнірнай табліцы.

**Аддзел інфармацыі.**





Фота забяспечана Ксеніяй ДУБОВІК.

Зборная каманда Міншчыны падчас узнагароджання.

# Зборная дзяўчат Міншчыны па футболе атрымала бронзу на рэспубліцы

## Большая частка каманды – маладзечанкі

**Выніковыя спаборніцтвы сярод дзяўчат 2002-2004 гадоў нараджэння ладзіла Міністэрства спорту і турызму Беларусі ў рамках традыцыйных Алімпійскіх дзён моладзі.**

**МАЛАДЗЕЧНА**

Спаборніцтвы праводзіліся 13-17 мая ў Лідзе на Гродзеншчыне.

Футбалісткі з маладзечанскай школы №14 складалі большую частку каманды. Іх было сямёра – **Ксенія Дубовік**, **Вольга Капыша**, **Наталля Радзівіловіч**, **Дыяна Ляшок**, **Анастасія Крыўко**, **Аляксандра Зайкоўская** і **Дыяна Трафімава**.

> **Трэніравалі маладзечанскіх дзяўчат Сяргей Ляшчынскі і Уладзімір Макоўскі.**

У турніры ўдзельнічала сем камандаў – каманды шасці абласцей і Мінска.

На спаборніцтвах каманды падзялілі на дзве падгрупы. У сваёй падгрупе зборная Міншчыны гуляла з Віцебскам, Гомелем і Магілёвам.

– Першы дзень прынёс нам перамогу над Гомелем з лікам 1:0, – распавядае трэнер настаўнік фізкультуры маладзечанскай школы №14 Сяргей Ляшчынскі. – Другі дзень з лікам 4:0 выйгралі ў Віцебска.

У трэці дзень спаборнічалі за выхад у фінал з магілёўскімі футбалістамі. Аднак тут на другой хвіліне прапусцілі гол і прайгралі.

– Вельмі крыўдна, – дзеліцца трэнер. – У дзяўчат было такое жаданне перамагчы, яны шмат валодалі гульнёй, стваралі небяспечныя сітуацыі для сапернікаў, але нешта не атрымалася.

Апошняя гульня была з Брэстам за трэцяе ці чацвертае месцы. Гулялі пад моцным дажджом. Гэта наша надвор'е, жартуе Сяргей Ляшчынскі. Як толькі дождж, дзяўчаты лепш гуляюць.

Аднак гульня пачалася з паражэння. Першы тайм прайгралі з лікам 1:0. У перапынку былі матывуючыя размовы з трэнерам у раздзявалцы. І яны далі свае вынікі.

> **Ужо ў сярэдзіне другога тайма дзяўчаты зраўнялі лік, а за сем хвілін да канца забілі яшчэ адзін гол.**

У выніку з лікам 1:2 атрымалі трэцяе месца ў спаборніцтвах.

Па словах трэнера, самыя крыўдныя месцы ў спорце – другое і чацвертае. Аднак, і трэцяе месца крыху засмуціла футбалістак. Некаторыя нават плакалі ў раздзявалцы.

– Летась на такіх спаборніцтвах мы занялі другое месца, – прыгадвае Сяргей Ляшчынскі. – Таму цяпер разлічвалі на першае. Тым больш, што леташні склад каманды амаль захаваўся.

Акрамя маладзечанак, у зборнай Міншчыны гулялі дзяўчаты з Жодзіна, Валожына і Пухавічаў. Па выніках спаборніцтваў вызначалі лепшых гульцоў. **Ксенію Фалей** з Жодзіна адзначылі як лепшага варатара.

> **– На такіх спаборніцтвах прысутнічаюць трэнеры зборных Беларусі па футболе. Яны назіраюць за гульнёй дзяўчат, пазначаюць сабе, каго б хацелі бачыць у зборнай. Таму футбалісткі зацікаўленыя ў такіх гульнях.**

– Хутка распусціце сваіх футбалістак на канікулы? – пытаюся ў Сяргея Ляшчынскага.

– Не, – адказвае трэнер. – У нас яшчэ ёсць планы на чэрвень. 10-14 Міністэрства адукацыі Беларусі ладзіць аналагічны футбольны турнір сярод дзяўчынак 2003-2005 гадоў нараджэння. Ад 15 да 19 чэрвеня – чэмпіянат рэспублікі ў Слуцку. Будзем удзельнічаць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Хуткі алюр, бег каня наўскач.
3. Прозвішча беларускага паэта, тройчы арыштаванага, а пасля рэабілітаванага. Ён знайшоў страчаную магілу Максіма Багдановіча. Увёў у актыўны слоўнікавы запас шэраг слоў – апантаны, водар, дойлід, знічка.
4. Цяжэйшы за паветра лятальны апарат з рухавіком і, звычайна, нерухомымі крыламі.
6. Пляцоўка ў садзе, скверы, перад домам, засеяная травой, засаджаная кветкамі.
7. Гурба снегу, намеценая ветрам.
10. Парушэнне нармальнага рытму сардэчных скарачэнняў.
11. У гэтай краіне на Новы год прынята дарыць трусы.
13. Сістэма фізічных практыкаванняў, якія садзейнічаюць агульнаму развіццю арганізма і ўмацаванню здароўя.
15. Спявачка родам з Калумбіі. Танцу жывата яе навучыла бабуля-ліванка.
17. Прадмет або жывая істота, прынесеныя ў дар бажаству паводле абрадаў некаторых рэлігій.
18. Прадукт няпоўнага згарання паліва, які чорным налётам асядае ў комінах.
22. Сукупнасць прыкмет, якія характарызуюць мастацтва пэўнага часу і напрамку з боку ідэйнага зместу і мастацкай формы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Апошняя фраза гераіні Наталлі Арэйра ў аргенцінскім серыяле «Дзікі анёл».
5. Самы распаўсюджаны колер валасоў.
7. Зала для дэманстрацыі і продажу прадметаў гандлю.
8. Вялікая зорная сістэма.
9. Каля 20% яго, атрыманага чалавекам, ідзе на забеспячэнне працы мозга.
12. Раменьчык са спражкай, які надзяваецца на сабаку.
13. Розум, развага.
14. Канстанцыя Буйло: "Люблю вясну, што ў кветкі, зелень Аздобіць радасна ...".
16. Кампанія Ілана Маска, якая ў 2000 годзе ледзь не прывяла вынаходніка да банкруцтва.
19. Грамадскі дзеяч Зігмунд Мінейка з Ашмяншчыны стаў ганаровым грамадзянінам адной старажытнай краіны. Назавіце яе.
20. Сакрэтны супрацоўнік разведкі.
21. Цела нябожчыка, прах.

## Адказы на крыжаванку з №21

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Чахол. 6. Анонс. 7. Следчы. 8. Гнюс. 9. Уволю. 10. Герб. 12. Меню. 13. Лозунг. 16. Абавязак 17. Апетыт. 19. Кукуруза. 20. Абырвалг. 23. Чуні. 25. Ляпа.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Чара. 3. Летась. 4. Нішто. 5. Эйнштэйн. 9. Укос. 10. Гадзюка. 11. Сыр. 14. Люмен. 15. Порса. 16. Арбалет. 18. Літара. 21. Гамбіт. 22. Гульня. 24. Грузчык.

## ● ГАРАСКОП 31 МАЯ – 6 ЧЭРВЕНЯ



**АВЕН.** Надыходзіць той час, калі вы можаце памяняць сваю эмацыйнасць на раўнамернае цячэнне жыцця, на поўную раўнавагу і стабільнасць. А калі дасягняце гэтага стану для сябе, то зможаце дапамагчы парадай іншым людзям.



**ЦЯЛЕЦ.** Сцеражыцеся нядобразычліўцаў на працы і ўсякіх канфліктаў з начальствам, нават калі вы маеце рацыю – цяпер не лепшы час для праяўлення актыўнай дзейнасці і адстойвання сваёй пазіцыі ў што б там ні было, лепш перачакайце гэты час.



**БЛІЗНЯТЫ.** Цяпер вы будзеце схільныя да фаталізму, мяркуючы, што ўсё вырашае выпадак, і, магчыма, на нейкі момант апусцілі б рукі, калі б здарылася з вамі якая няўдача. На шчасце, у хуткім часе з вамі будуць адбывацца толькі спрыяльныя падзеі, і вы зноў паверыце ў свой поспех і ў тое, што ўсё залежыць менавіта ад вас.



**РАК.** Наваліцца шмат працы, часам будзе здавацца, што гэта вам не пад сілу, але вы справіцеся. І не перажывайце з-за розных дробязяў, з-за таго, што яшчэ не адбылося і, магчыма, ніколі не адбудзецца. З лёгкасцю глядзіце ў будучыню.



**ЛЕЎ.** У вас цяпер абвострыцца інтуіцыя і адчувальнасць, а адсюль, як вынік, і павышаная эмацыйнасць і ранімасць. Стрымлівайце сябе толькі ў выпадку крайняй неабходнасці, ва ўсіх жа астатніх дазвольце сабе быць сабой. У справах кіруйцеся інтуіцыяй, а логіку пакіньце на потым.



**ДЗЕВА.** Усё, што зробіце ў сераду, будзе мець ашаламляльны эфект. Бо ваш дзень – серада, асабліва 5, 10, 12, 15, 25 чыслы. Ёй кіруе Меркурый.



**ШАЛІ.** Шчаслівы дзень тыдня для вас – пятніца, асабліва 6, 12, 18, 24 і 30 чыслы. Пятніца – дзень міру і справядлівасці. Менавіта ў гэты дзень пачынайце новыя праекты. Удача будзе з вамі. Толькі не канфліктуйце.



**СКАРПІЁН.** Клопаты пачнуць вас стамляць і адкрыта надакучаць. Таму звядзіце да мінімуму ўсе кантакты, якія толькі магчымыя. Хутка ў вас пачнуць зараджацца новыя ідэі, якія абавязкова знойдуць рэалізацыю.



**СТРАЛЕЦ.** Настаў ваш зорны час. Вам будзе ўдавацца практычна ўсё. Ваш дзень чацвер – 3-е, 12-е, 21-е, 30-е чыслы.



**КАЗЯРОГ.** Шукайце скрыты сэнс ва ўсім, што адбываецца. Ваш дзень – субота, асабліва чыслы 1, 5, 9, 11. Гэтым днём кіруе Сатурн – найвялікшая з планет. Не сварыцеся, не стрыжыце валасы і не мыйце бялізну. Для ўсяго іншага – зялёнае святло.



**ВАДАЛЕЙ.** Рабіце тое, што лічыце патрэбным, цаніце тое, што маеце, не забывайце дапамагаць менш удачлівым. Калі трэба палепшыць жыццё – аддавайцеся марам. Уяўляйце ўсё, што хочаце.



**РЫБЫ.** Перыяд сур'ёзных здзяйсненняў. Цяпер абвострыцца ваша інтуіцыя, а следам за ёй і ўвогуле разуменне першапрычын усяго таго, што адбываецца, а гэта вельмі дапаможа вам у вырашэнні спрэчных сітуацый і выкананні пастаўленых перад сабой планаў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 8 | 1 | | | | | | 9 |
| | 5 | | | 1 | | 2 | | 6 |
| | | | | | 7 | | | |
| 2 | | | | | 5 | 1 | | 4 |
| | 3 | | 9 | | | 6 | | |
| 9 | | | | | 4 | 3 | | 5 |
| 5 | 2 | 3 | | 4 | | | | |
| 8 | | | | 9 | | | 1 | |
| | | | | 3 | | | 8 | 2 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3Х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## Чытайце праз тыдзень

**Шостага і сёмага чэрвеня Маладзечна зноў стане фестывальным. Як і штогод, тут правядуць свята беларускай песні і паэзіі. А мы вуснамі нашых герояў прыгадаем першы маладзечанскі фестываль, што ладзілі ў 1993 годзе.**

## 1 чэрвеня, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 1-4 м/с

Астравец: +13 / +18, Пераменная воблачнасць

Мядзел: +13 / +20, Хмарна з праясненнямі

Вілейка: +15 / +21, Пераменная воблачнасць

Смаргонь: +13 / +20, Пераменная воблачнасць

Ашмяны: +13 / +17, Пераменная воблачнасць

Маладзечна: +15 / +19, Пераменная воблачнасць

Валожын: +12 / +21, Пераменная воблачнасць

Усход 4.44
Захад 21.35
Даўжыня дня 16.51

Усход 4.16
Захад 18.59
Месяц на сходзе

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература 0,6°С у 2001 годзе
Максімальная тэмпература +30,6°С у 1979 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 23 мм у 1993 годзе

Паводле meteoinfo.by.



## Кроч у лета з «Рэгіянальнай газетай»!

### Ідзе падпіска на другое паўгоддзе

**Падпісацца на «РГ» можна:**

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 50 капеек;
- на тры месяцы – 13 рублёў 50 капеек;
- на паўгоддзе – 27 рублёў.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 13 рублёў 50 капеек;
- на тры месяцы – 40 рублёў 50 капеек;
- на паўгоддзе – 81 рубель.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

### ПТУШКА НА ХВАСЦЕ ПРЫНЕСЛА

Любоў у быце.

1 дзень з новай суседкай – «Ой не, давай без гэтых дадатковых сметніц, у кухні зусім няма месца. Я ўсё жыццё выкідаю пластык і паперу ў агульнае смецце і неяк дагэтуль жывая. Не выпендрывайся».

5 дзень – «Ты што, каПаешся ў нашай сметніцы перад тым, як яе вынесці? Каб раздзяліць? Ты нармальная ўвогуле? Ты што, у сваім пакоі паставіла каробкі для сегрэгацыі? Капец, з кім я жыву??».

9 дзень – «Слухай. На падваконні пакет. Я паставіла. Для пластыку. Будзем збіраць. Асобна. Ненавіджу цябе».

### ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці павінны быць ільготы для шматдзетных сямей?

**Іван Страх, пенсіянер:**

– Дапамога абавязкова павінна быць, асабліва на жыллё. Як выхаваць траіх дзяцей, наймаючы жыллё ў Мінску? Калі ў маладосці пачаў працаваць, стаў на чаргу. Праз шэсць год атрымаў жыллё. Нармальны тэрмін. А цяпер па 40 гадоў у інтэрнаце жывуць.

**Галіна Ганіч, пенсіянерка:**

– У Расіі добрыя льготы. Для шматдзетных павінна быць бясплатнае харчаванне ў школе, садок. Ды і на двое дзяцей да сярэдняй школы можна даваць ільготы. Калі і мама, і тата працуюць, двое можна падняць, а калі толькі адзін – цяжка.

**Вольга Арол, прадпрымальнік:**

– Я расіянка, прыехала ў госці. На другое дзіця ў нас прадугледжаны мацярынскі капітал. Зручна, што ім можна свабодна распараджацца – аплаціць навучанне або зямлю ці дом. Даваць жыллё пасля трэцяга дзіцяці дзяржава не заўсёды можа сабе дазволіць.

**Валеры Апанасевіч, станочнік:**

– На жыллё абавязкова. У сябра трое дзяцей. Узяў кватэру ў крэдыт – дык толькі аднапакаёўку. Таму што з крэдытам за двухпакаёвую застаўся б без штаноў, і то не разлічыўся б.

**Наталля Дарамей, намеснік дырэктара гандлёвага прадпрыемства:**

– Ільготы павінны быць, усяго па крыху. Можна пачынаць іх даваць, калі ў сям'і двое дзяцей.

**Аляксандр Гарошка, дэфектаскапіст на чыгунцы:**

– Дапамагаць трэба абавязкова, лепш за ўсё грашыма. Мы з жонкай выгадавалі адно дзіця. Трэба было будавацца, якраз перабудова ішла – двaіх не пацягнулі б. А пасля ўжо час мінуў. Хацелі яшчэ дзіця, было б лягчэй – нарадзілі б.

**Таццяна Голуб, прадпрымальнік:**

– Абавязкова! Харчаванне ў школе, апякунскія зборы – усё, што звязана з адукацыяй, павінна быць даступным для шматдзетных.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Дзе ў Маладзечанскім раёне можна купацца

Спецыялісты Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі праверылі пробы вадаёмаў раёна і абследавалі ўзаконеныя зоны для адпачынку.

Зацвердзілі чатыры месцы для купання і масавага адпачынку ў Маладзечанскім раёне:

1) вадаём санаторыя «Сасновы Бор»;

2) вадаём дома адпачынку «Алеся»;

3) вадаём у пасёлку Беразінскае Гарадзілаўскага сельсавета, замацаваны за УП «Камунальнік»;

4) вадаём Удранка ў Радашкавічах, замацаваны за лясгасам.

Па выніках аб'ездаў спецыялістаў далі рэкамендацыі ў выканкамы і ведамствы, як выправіць парушэнні.

Калі вы адпачываеце на вадаёме, калі ласка, прыбірайце за сабой і забірайце сваё смецце. Несанкцыянаваных звалак апошнім часам стала менш. Але любы адпачынак можа сапсаваць чужое непрыбранае смецце.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ, загадчык аддзялення камунальнай гігіены Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**

Фота maminklub.lv.

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№22 (1257) 31.05.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 825. Падпісана ў друк у 9.00 30.05.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.